ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ

ОРГАН КУЛЬТПРОПУ ЦК КП/б/Б



ЛІСТАПАД

## № 8–9

ДВБ - 1932
ПАРТМАССЭКТАР



## Заўважаныя памылкі друку

| Стар. | Радок | Пункт | Надрукавана | Трэба чытаць |
|---|---|---|---|---|
| 44 | 7 зьверху | 1 | Опортунізм у II Інтэрнацыянале | Опортунізм II Інтэрнацыяналу. |
| 44 | 2 зьнізу | 5 | Надрукавана пасьля двукосьсяў: „Левыя“ ў II Інтэрнацыянале | Двукосьсі трэба аднесьці ў канец сказу. Слова „левыя“—з малой літары. |
| 45 | 16 зьверху | 8 | | Словы: „Барацьба контррэволюцыйнага трацкізму з марксызмам-ленінізмам“ трэба перанесьці з пункту 8-га ў канец пункту 7-га. |
| 46 | 7 зьверху | 4 | Няпрымірымая барацьба ЎсеКП(б) і Комінтэрну на два фронты | Непрымірымая барацьба ЎсеКП(б) і Комінтэрну з контррэволюцыйным трацкізмам, як перадавым атрадам сусьветнай буржуазіі, барацьба на два фронты. |
| 46 | 21 зьверху | — | Ленін—заваяваньне і запісаньне | Ленін—заваяванае і запісанае |

Зак. № 2932.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!



# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ

ОРГАН КУЛЬТПРОПУ ЦК КП(б)Б

## № 8—9

ЛІСТАПАД 1932

ВЫХОДЗІЦЬ 2 РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ПАРТМАССЭКТАР

МЕНСК 193



*Літпраўка* А. *Зіміонка*
Корэктар С. *Дамаронак*
Тэхрэдактар І. *Мілешка*
Здана ў друкарню 30-XI—32 г.
Падпісана да друку 18/I—33 г.
Набрана брыгадай *Ландо*.
Адк. кор. друк. *Міхалевіч*.

# ЗЬМЕСТ.



Заказ № 2932. 5.000 (3¾ арк). Уп. Галоўлітбелу № а 1260

Друкарня імя Сталіна.

# ДА ВЫНІКАЎ XII ПЛЕНУМУ ВККІ.

XII пленум ВККІ, які адбыўся ў верасьні 1932 г., абмеркаваў рад важнейшых пытаньняў.

За паўтары гады, мінуўшыя паміж XI і XII пленумамі, у сусьветнай абстаноўцы адбыліся буйныя зьмены, намеціўся пэўны пералом у ходзе разьвіцьця агульнага крызісу капіталізму.

Адзначаючы як адну з асноўных зьмен у сусьветным становішчы зрух у суадносінах сіл паміж соцыялістычным і капіталістычным сьветамі, дзякуючы росту адноснай вагі СССР, „ажыцьцяўляючага гіганцкімі тэмпамі сваю вялікую праграму соцыялістычнай індустрыялізацыі, колектывізацыі і культурнай рэволюцыі“ (Тэзісы XII пленуму, па I п.), пленум падкрэсьліў вялізарнае значэньне гэтага факту для далейшага разьвіцьця цяперашняга рэволюцыйнага ўздыму.

У сусьветным становішчы новым зьяўляецца фактычны пачатак вайны (напад Японіі на Кітай), новая фаза падрыхтоўкі антысавецкай вайны („незалежная“ Манчжурыя — пляцдарм антысавецкай інтэрвэнцыі на Ўсходзе) і ўзрастаючы паўсюдна ў краінах імпэрыялізму і ў колёніях—рэволюцыйны ўздым, як па свайму размаху, так і па формам дасягнуўшы куды больш высокага ўзроўню, чым к часу XI пленуму ВККІ.

У ацэнцы пленумам сусьветнага становішча самым важным зьяўляецца вывад аб сканчэньні часовай стабілізацыі капіталізму і аб набліжэньні новага туру рэволюцый і войн.

Пастановы пленуму маюць тым большае значэньне, што яны, выходзячы з гэтай ацэнкі, намячаюць блізкую пэрспэктыву рашаючых клясавых баёў, прадугледжваюць няўнікнёнасьць найглыбейшых патрасеньняў, магчымасьць раптоўных узрываў і паваротаў. „У пэўных надзвычай важных вузлавых пунктах антаганістычныя сілы ўжо разьвязваюцца для сутычкі“ (Тэзісы XII пленуму).

У сувязі з гэтым пастановы пленуму больш, чым калі-б яно ні было, завастраюць пытаньне аб самападрыхтоўцы компартый і падрыхтоўцы імі пролетарыяту да надыходзячай барацьбы за ўладу, за дыктатуру пролетарыяту.

„Канец капіталістычнай стабілізацыі, быстрае нарастаньне прадпасылак рэволюцыйнага крызісу ў радзе капіталістычных краін і ўся новая міжнародная абстаноўка з усёй вастрынёй

ставіць пытаньне аб выкананьні асноўнай у сучасны момант задачы комуністычных партый: падрыхтоўкі рабочай клясы і эксплёатуемых мас у ходзе экономічнай і політычнай барацьбы да надыходзячых баёў за ўладу, за дыктатуру пролетарыяту. Іменна таму, што тэрміны для насьпяваньня рэволюцыйнага крызісу зьяўляюцца кароткімі, неабходна, ня трацячы ні аднэй мінуты, узмацніць і паскорыць бальшавіцкую масавую работу па заваяваньні большасьці рабочай клясы, па павышэньні рэволюцыйнай актыўнасьці рабочай клясы“ (Тэзісы XII пленуму, па I п.).

Абвастрэньне і паглыбленьне сусьветнага экономічнага крызісу, які прадаўжаецца чацьверты год, нябывалы ўпадак вытворчасьці і рост беспрацоўя, нясупыннае падзеньне цэн на сусьветным рынку, наймацнейшае патрасеньне крэдытнай сыстэмы і валюты амаль ва ўсіх краінах капіталістычнага сьвету, побач з бурным ростам соцыялістычнай экономікі ў СССР, зьяўляюцца экономічным базісам канца стабілізацыі капіталізму.

Посьпехі наступленьня соцыялізму па ўсім фронце ў СССР, магутны рэволюцыйны ўздым, узрастаючы ўсюды пад знакам росту ўплыву комунізму, і рост супярэчнасьцяй паміж імпэрыялістычнымі дзяржавамі —зьяўляюцца рашаючымі фактарамі ў справе крушэньня адноснай стабілізацыі капіталізму.

Шырокія масы прышлі ў рух. Рэволюцыя ў Іспаніі і рэволюцыйная сытуацыя ў Кітаі, набліжэньне рэволюцыйнага крызісу ў Германіі і Польшчы, бурныя і ўпорныя стачкі амаль ва ўсіх краінах, рэволюцыйныя дэмонстрацыі рабочых і беспрацоўных, жорсткія сутычкі з паліцыяй і фашыстамі, баявыя выступленьні сялянскіх мас, уздым рэволюцыйнай барацьбы ў Індыі, Інда-Кітаі і ў краінах Паўднёвай Амэрыкі, рухі сярод салдат і матросаў у імпэрыялістычных арміях—характарызуюць цяперашні рэволюцыйны ўздым. Канец стабілізацыі капіталізму азначае далейшы, яшчэ больш быстры рост рэволюцыйнага ўздыму, уцягненьне ў барацьбу новых соцень тысяч і мільёнаў рабочых, сялян, беспрацоўных, прыгнечаных колёніяльных народаў.

Жорсткая гандлёвая вайна за сусьветныя рынкі, нябывалы протэкцыянізм пры адначасовым найвастрэйшым дэмпінгу, гвалтоўны захват Манчжурыі Японіяй, рэзкае абвастрэньне супярэчнасьцяй паміж Японіяй і ПАЗШ, Англіяй і ПАЗШ, Францыяй і Германіяй, Італіяй і Францыяй, нястрымная гонка імпэрыялістычных узбраеньняў — характарызуюць надзвычайнае абвастрэньне зьнешніх супярэчнасьцяй імпэрыялізму. „Новая сусьветная імпэрыялістычная вайна стала непасрэднай небясьпекай“ (Тэзісы XII пленуму, па I п.).

Магутны рост рэволюцыйнага ўздыму апіраецца на пераможнае соцыялістычнае будаўніцтва ў СССР. Скончэньне пяцігодкі ў 4 гады і пастаноўка вялікіх задач пабудовы бяскласавага грамадзтва ў другой пяцігодцы павялічылі рэволюцыянізуючую ролю Савецкага саюзу. Гэты ачаг сусьветнай рэволюцыі сва-

імі посьпехамі абуджае ўвесь сьвет эксплёатуемых і прыгнечаных і кліча іх на барацьбу за рэволюцыйны выхад з крызісу. Страх перад пролетарскай рэволюцыяй падганяе ўсе імпэрыялістычныя дзяржавы да ўзмацненьня падрыхтоўкі ваеннай інтэрвэнцыі супроць Савецкага саюзу. У вайне супроць СССР імпэрыялізм спадзяваецца разьбіць сусьветны бальшавізм і за кошт краіны Саветаў вырашыць свае затрудненьні. Сьвет упаўзае ў новую вайну ў абстаноўцы ўзрастаючага ўсюды масавага рэволюцыйнага ўздыму.

„Надышоў канец адноснай стабілізацыі капіталізму, але яшчэ няма непасрэднай рэволюцыйнай сытуацыі ў важнейшых і рашаючых капіталістычных краінах. У сучасны момант адбываецца іменна пераход да новага туру буйных сутычак паміж клясамі, паміж дзяржавамі, да новага туру рэволюцый і войн“ (Тэзісы па I пункту парадку дня).

Гэты пераход адбываецца ў форме нераўнамернага працэсу. „У Іспаніі адбываецца рэволюцыя. У Кітаі рэволюцыйныя сытуацыі, а на значнай тэрыторыі—перамога савецкай рэволюцыі. У Германіі — надзвычайнае абвастрэньне клясавых антаганізмаў: з аднаго боку, рост фашызму, з другога—рост рэволюцыйнай масавай барацьбы, паскоранае нарастаньне прадпасылак рэволюцыйнага крызісу. Некаторыя іншыя краіны або ўсутыч падыходзяць да рэволюцыйнага крызісу (Польшча), або ў рэзультаце крайняга абвастрэньня ўнутраных і зьнешніх супярэчнасьцяй у бліжэйшы час могуць апынуцца ў абстаноўцы рэволюцыйнага крызісу (Японія). У Індыі і ў краінах Лацінскай Амэрыкі разьвіцьцё рэволюцыйнага крызісу затрымліваецца, у першую чаргу, слабай організаванасьцю пролетарыяту і нясьпеласьцю компартый. Ва ўсіх капіталістычных краінах сілы міжнароднай пролетарскай рэволюцыі няўхільна растуць, але ў такіх важнейшых краінах сусьветнага капіталізму, як ПАЗШ, Англія і Францыя, уздым рэволюцыйнага руху, хоць і разьвіваецца, але покуль што яшчэ моцна адстае ад высокай напружанасьці ўсёй міжнароднай абстаноўкі“ (Тэзісы).

Пленум, улічваючы нераўнамернасьць разьвіцьця эканамічнага крызісу і рэволюцыйнага ўздыму ў паасобных краінах указаў, як на галоўную небясьпеку, на опортуністычную недаацэнку рэволюцыйных пэрспэктыў і на шкоднасьць лявацкіх тэндэнцый да пераскокваньня праз гістарычныя этапы, перасьцярог ад мэханічнага перанясеньня ацэнкі становішча з аднэй краіны ў другую і ўказаў на неабходнасьць уважлівага конкрэтнага вывучэньня задач кожнай партыі ў кожнай паасобнай краіне.

Пленум перасьцярог супроць опортуністычнай недаацэнкі вайны ў Кітаі, як прэлюдыі сусьветнай вайны і інтэрвэнцыі ў СССР, супроць фаталістычных настрояў і тэорыі аб тым, што „вайна ўсёроўна прыдзе“, што „з вайны аўтоматычна вырастае рэволюцыя“—тэорый, за якімі скрываецца, як опортуністычная пасыўнасьць у барацьбе супроць вайны, так і пасыўнасьць у падрыхтоўцы рэволюцыі.

Важнейшым у гэтай падрыхтоўцы зьяўляецца разгортваньне эканомічных баёў, якім пленум прысьвяціў выключную ўвагу.

Разьвіцьцё масавага стачачнага руху ў Іспаніі, Кітаі Польшчы, Чэха-Славакіі, Японіі, Францыі, Бэльгіі, Баўгарыі, Англіі, Індыі, ПАЗШ і інш. краінах зьяўлялася за мінулы год важнейшай састаўной часткай рэволюцыйнага ўздыму і адным з яркіх паказальнікаў канца капіталістычнай стабілізацыі.

Асабліва заслугоўвае ўвагі побач з масавым характарам стачак: уцягненьне ў барацьбу новых атрадаў пролетарыяту ў краінах, пазьней ад другіх уступіўшых у крызіс (гарнякі Бэльгіі, тэкстылі Голяндыі, дрэваапрацоўшчыкі Швэцыі, монцёры Швэйцарыі), быстрае ператвараньне эканомічных стачак у політычныя (Чэха-Славакія, Бэльгія і інш.), рост адноснай вагі кіруючага ўдзелу компартый і рэволюцыйнага профруху ў стачках і ў барацьбе беспрацоўных і выяўленьне новага беспартыйнага рабочага актыву, які насуперак рэформістам вядзе героічную барацьбу супроць наступленьня капіталу.

Пленум указаў, што эканомічная барацьба пролетарыяту, набываючая ўсюды ўсё больш рэволюцыйны характар, „на даным этапе зьяўляецца асноўным зьвяном для падвядзеньня мас да надыходзячых буйных рэволюцыйных баёў“ (Тэзісы, па II п.).

Побач з гэтым пленум зьвярнуў увагу ўсіх сэкцый Комінтэрну на ўзрастаючае політычнае значэньне руху беспрацоўных, які ўсё больш накіроўваецца непасрэдна супроць капіталістычнай дзяржавы.

Паставіўшы ў цэнтры ўвагі масавую работу компартый, пленум удзяліў значнае месца задачам рэволюцыйнага профруху і ў асаблівасьці рабоце комуністаў у рэформісцкіх профсаюзах. Пленум моцна ўдарыў па раду памылак сярод работнікаў рэволюцыйнага профэсіянальнага руху, памылак, тармозячых выкананьне важнейшай задачы заваяваньня рабочых рэформісцкіх профсаюзаў, і гэтым самым, зрываючых правядзеньне тактыкі адзінага фронту зьнізу.

Іменна гэтыя недахопы перашкаджаюць выкананьню галоўнай стратэгічнай задачы заваяваньня большасьці рабочай клясы, гэтай важнейшай прадпасылкі пасьпяховай барацьбы за ўладу.

Пленум, удзяліўшы вялікую ўвагу агульнаму становішчу ў Германіі, у прыватнасьці характарыстыцы цяперашняга ўраду фон-Папена, асабліва падрабязна спыніўся на пытаньнях фашызму і соцыял-фашызму, а таксама на ўнутрыпартыйных пытаньнях КПГ.

Ня гледзячы на абшырныя, чоткія пастановы XI пленуму па пытаньні аб фашызьме і соцыял-фашызьме, цэлы рад скажэньняў у тлумачэньні сутнасьці фашызму і соцыял-фашызму меў месца за апошні год у сэкцыях Комінтэрну, у прыватнасьці ў Германіі. Гэтыя скажэньні вельмі шкодна адбіліся на вырашэньні важнейшай проблемы правядзеньня сапраўды бальшавіцкай тактыкі адзінага фронту зьнізу. Калі опортуністычная пераацэнка сіл фашызму і недаацэнка агульных

рыс фашызму і соцыял-фашызму прыводзіць да праваопортуністычных імкненьняў організацыі адзінага фронту з верхавінкай соцыял-дэмократычных організацый, да паражэнчых настрояў, да панікі і капітуляцыі, што выразіліся ў тэорыі „чым горш, тым лепш“ („чым хутчэй прыдзе фашызм, тым хутчэй прыдзе рэволюцыя“), то лявацкая недаацэнка фашызму і недаацэнка розьніцы паміж соцыял-фашызмам фашызмам прыводзіла да пасыбнасьці, да абмежаваньня сябеў арацьбой толькі супроць соцыял-фашызму і забыцьцю барацьбы супроць фашызму, да атоесамленьня соцыял-дэмократычных правадыроў і рабочых, да адрыву ад работы ў шырокіх масах.

Пленум таксама падкрэсьліў розьніцу паміж фашызмам пэрыоду адліву рэволюцыі, пэрыоду стабілізацыі капіталізму і фашызмам, пэрыоду ўздыму рэволюцыйнай хвалі, пэрыоду канца стабілізацыі капіталізму, ударыў па тых, хто ў наступленьні фашызму бачыць толькі элемэнты ўзмацненьня капіталізму і паражэньня пролетарыяту.

Канец стабілізацыі капіталізму прымушае клясавага ворага зьбіраць свае сілы для больш жорсткага наступленьня на рабочую клясу і бязьлітаснага падаўленьня рэволюцыйнага ўздыму.

„У большасьці капіталістычных краін буйная буржуазія організуе фашысцкія атрады грамадзянскай вайны, узводзіць у сыстэму політычны бандытызм, белы тэрор, катаваньні політзьняволеных, провакацыі, фальшыўкі, расстрэлы бастуючых і дэмонстрантаў, роспуск і разгром рабочых організацый“ (Тэзісы).

Аднак, зьяўляючыся зброяй фінансавага капіталу ў наступленьні на рабочую клясу і ўсіх працоўных, фашызм адначасова носіць у сабе элемэнты разлажэньня капіталізму. Калі ў фашызьме ў пэрыод стабілізацыі на першы плян выступалі элемэнты консолідацыі капіталізму, то ў момант канца капіталістычнай стабілізацыі ў фашызьме ўсёбольш выступаюць элемэнты разлажэньня капіталізму. Гэтыя элемэнты больш за ўсё ў наяўнасьці там, дзе ёсьць магутны рэволюцыйны ўздым, дзе буржуазія знаходзіцца пад непасрэднымі ўдарамі масавага рэволюцыйнага ўздыму.

Ацэнка фашызму, як аднабаковага процэсу наступленьня капіталу і выцякаючыя з яе паражэнчыя настроі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у Германіі знайшлі сваё адлюстраваньне ня толькі сярод паасобных германскіх комуністаў але і сярод паасобных членаў другіх сэкцый Комінтэрну. Найбольш яркім выражэньнем зьявілася праваопортуністычнай ацэнка становішча ў Германіі і сусьветнага становішча наогул, якую незадоўга да XII пленум даў т. Эмбэрдро.

У паасобных членах КПГ гэтая правая ўстаноўка сваяасабліва перапляталася і была цэсна зьвязана з лявацкімі ўстаноўкамі т. Г. Нэймана, якія выразіліся ў недаацэнцы сіл фашызму, у аслабленьні барацьбы супроць яго. Крытыка гэтых установак, прадпрынятая з боку ВККІ і ЦК КПГ яшчэ да XII пленуму ВККІ зрабіла значны ўплыў на выпраўленьне памылак ў агітацыі КПГ.

Адпор, даны гэтым устаноўкам на XII пленуме, адыграе рашаючую ролю ў справе палепшаньня ўсёй масавай работы компартый, у першую чаргу КПГ.

Пленум даў таксама адпор і тым, хто ня бачыць узросшых магчымасьцяй барацьбы супроць социял-дэмократыі, якая астаецца галоўнай социяльнай апорай буржуазіі, ня гледзячы на тое, што канец капіталістычнай стабілізацыі ня можа не адбіцца на яе лёсе. Социяльны базіс социял-дэмократыі звужваецца. Канец капіталістычнай стабілізацыі азначае канец цэлай паласы социяльных рэфор—гэтай галоўнай эканомічнай асновы масавага ўплыву с.-д. Згаленьне, голад і нястача мільёнаў зьяўляецца найбольш пераканальным абвяржэньнем усіх лжэвучэньняў с.-д. аб мірным урастаньні ў социялізм з дапамогай „організаванага капіталізму", „дзяржкапіталізму" і т. д. Як дым рассейваюцца ілюзіі, створаныя ёю. Процэс разлажэньня с.-д. узмацняецца, прымушаючы яе прымяняць „левыя" манэўры, маючыя на мэце замаруджаньне выхаду з яе радоў рабочых мас.

„Пэрыод капіталістычнай стабілізацыі характарызаваўся тым, што буржуазія ў пераважнасьці скарыстоўвала ў якасьці галоўнай сваёй зброі социял-дэмократыю. Канец капіталістычнай стабілізацыі павялічвае адносную вагу фашызму ў сыстэме дзяржаўнага кіраваньня капіталу" (Мануільскі). Зусім не адмаўляючыся ад паслуг социял-дэмократыі, буржуазія з узмацненьнем фашызму адцясьняе яе ў радзе краін ад непасрэднага ўдзелу ва ўрадзе і ў кіраваньні краінай.

З гэтага хто-ні-хто зьяўляецца схільным зрабіць вывад аб пераходзе ролі галоўнай социяльнай апоры буржуазіі да фашыстаў. Гэта зусім няверна.

Ня гледзячы на ўсе зьмены ў абстаноўцы, социял-дэмократыя не перастала быць галоўнай социяльнай апорай буржуазіі. Толькі накіроўваючы галоўны ўдар супроць социял-дэмократыі, толькі разграміўшы гэтую галоўную социяльную апору буржуазіі, „можна пасьпяхова біць і разьбіць галоўнага клясавага ворага пролетарыяту—буржуазію" (Тэзісы).

КПГ дасягнула, ня гледзячы на надзвычай вялікія об'ектыўныя цяжкасьці, значных посьпехаў у справе заваяваньня мас, самастойнага кіраўніцтва баямі рабочай клясы, організацыі адзінага фронту зьнізу, у барацьбе супроць фашызму, у справе ўмацаваньня сваіх радоў і выкрыцьці социял-дэмократыі, КПГ аказала высокую манэўраздольнасьць у самых складаных сытуацыях, але разам з тым, у рабоце КПГ ёсьць рад паасобных недахопаў.

Паасобныя зьвеньні партыі не заўсёды быстра і правільна рэагавалі на быструю зьмену ў палітычнай сытуацыі і ў суадносінах клясавых сіл. Асабліва характэрным зьяўляецца дзень 20 ліпеня, калі ўрад Папена прагнаў 20 віднейшых социял-фашысцкіх чыноўнікаў, узначальваўшых урад у Прусіі, і замяніў іх фашыстамі. У гэты дзень масы былі на вуліцах, хваляваньне было вельмі вялікім, але партыя спазьнілася з сваім заклікам да забастоўкі.

Адзначыўшы гэтыя і другія недахопы ў рабоце КПГ, пленум падкрэсьліў блізкасьць рэвалюцыйнай пэрспэктывы ў Германіі, якая побач з Польшчай зьяўляецца найбольш важным ачагом рэвалюцыі і комунізму ў Заходняй Эўропе. Паскоранае нарастаньне элемэнтаў рэвалюцыйнага крызісу ў гэтых краінах патрабуе ад іх компартый максымальнай актыўнасьці, бальшавіцкай пільнасьці, ініцыятывы ў справе арганізацыі экономічных і палітычных баёў і ўсіх масавых рэволюцыйныхвыступленьняў пролетарыяту, у началеньня імі антыфашысцкагаз фронту і ўсяе барацьбы супроць вайны ў абарону Кітаю і ў абарону СССР.

XII пленум ВККІ адзначыў цэлы рад дасягненьняў у рабоце сэкцый КІ.

Компартыі вырасьлі, павялічыўся іх уплыў на масы. Асабліва вырас масавы ўплыў КПГ, КПП, КП Кітаю, КПЧ, КП Баўгарыі. У сувязі з бэльгійскай стачкай КП Бэльгіі падвоіла свой састаў. Колькасны састаў усіх компартый, ня лічачы УсеКП(б), за апошні год вырас амаль на 400 тыс. членаў.

Компартыі і рэволюцыйныя профсаюзы арганізавалі і кіравалі цэлым радам экономічных забастовак у Польшчы, Чэха-Славакіі, Германіі і т. д. КП Японіі паказала ўзор сапраўды рэволюцыйнай масавай работы супроць вайны. КП Кітаю перажывае бурны рост і дабілася буйнейшых посьпехаў у справе разгортваньня савецкай рэволюцыі ў Кітаі. Яна арганізуе антыімпэрыялістычную барацьбу кітайскага народу на бэрыторыі Гоміндану і генэральскіх зграй.

Сэкцыі КІ дасягнулі прыкметных посьпехаў у справе прымяненьня тактыкі адзінага фронту зьнізу (у Германіі ў форме антыфашысцкага фронту), у забастоўцы ў Бруксе (у Чэха-Славакіі), у цэлым радзе забастовак у Польшчы, у Бэльгіі, у Англіі. Буйнейшыя партыі маюць дасягненьні ў галіне работы на прадпрыемствах. Большасьць сэкцый КІ здолела даць адпор правым і „левым“ опортуністам, ускрыць яшчэ неаформленыя опортуністычныя ўхілы, выправіць дапушчаныя ў паасобных зьвеньнях памылкі.

„Ня гледзячы на слабасьць масавага ўплыву компартыя ў цэлым радзе краін, ва ўсім капіталістычным сьвеце ў шматлікіх баёх і іспытах, ва ўмовах бязьлітаснага тэрору, комуністы паказалі сябе мужнымі і сапраўды рэволюцыйнымі перадавымі барацьбітамі пролетарыяту“ (*Тэзісы па 1 пункту парадку дня*).

Аднак, ёсьць яшчэ вельмі вялікае адставаньне компартый ад тэмпаў разьвіцьця масавага рэволюцыйнага ўздыму і ад шырокіх магчымасьцяй, ствараемых спрыяльнай об'ектыўнай абстаноўкай.

Найвялікшай слабасьцю комуністычных партый зьяўляецца масавая работа.

Гэтая слабасьць набывае тым большае значэньне, што ўмовы канца капіталістычнай стабілізацыі быстра асьвячаюць і падводзяць шырокія масы да сазнаньня аб неабходнасьці кіраўніцтва барацьбой з боку компартый і чырвоных профсаюзаў.

Недахопамі масавай работы компартый зьяўляюцца: адарванасьць большасьці комуністаў ад рэформісцкіх і іншых неко-



муністычных рабочых, сэктанцкі падыход да гэтых рабочых, недахопы і памылкі стачачнай тактыкі і стратэгіі, слабасьць работы на прадпрыемствах. Фактычнае супраціўленьне многіх комуністаў правядзеньню работы ў рэформісцкіх профсаюзах, арганізацыйная слабасьць компартый на прадпрыемствах, абстрактнасьць агітацыі і прапаганды, адставаньне работы сярод беспрацоўных жанчын, моладзі.

Пленум падвергнуў асабліва рэзкай крытыцы недахопы масавай работы компартыі Францыі. Улічваючы выключна вялікую адказнасьць гэтай партыі, з прычыны асобай ролі французскага імпэрыялізму ў справе падрыхтоўкі вайны і наогул на сусьветнай арэне, пленум удзяліў ёй вялікую ўвагу. КП Францыі на працягу апошняга году пасьпяхова вядзе антываенную кампанію. Асабліва бліскуча яна правяла кампанію выкрыцьця французскага ўраду, генэральнага штабу, французскай паліцыі і белагвардзейцаў у сувязі са справай Гаргулава. Політычны уплыў комуністаў у масах ва Францыі расьце тым быстрэй, што ў гэтай краіне больш, чым у любой іншай, адчуваецца падрыхтоўка вайны. Але компартыя Францыі слаба замацоўвае свой політычны ўплыў організацыйна, ды і політычны ўплыў часта траціць, дзякуючы вялікім недахопам яе масавай работы. Асабліва паказальнай зьяўляецца страта больш 200 тысяч галасоў у часе агульных выбараў у палату дэпутатаў у 1932 г. (у параўнаньні з выбарамі 1928 г.). Галоўнымі недахопамі яе зьяўляецца—слабая работа на прадпрыемствах, у рэволюцыйных і ў рэформісцкіх профсаюзах, сярод беспрацоўных. Пленум падкрэсьліў, як адну з галоўных прычын слабасьці работы КПФ, адсутнасьць сапраўды колектыўных мэтодаў кіраўніцтва.

Рэзкай крытыцы падвяргалася работа компартый Англіі і ПАЗШ, якія вельмі слаба скарыстоўваюць багатыя магчымасьці масавай работы ва ўмовах крызісу і беспрацоўя, моцна ўдарыўшы па гэтых краінах.

Указаўшы, як мы адзначылі вышэй, што асноўная задача, якая стаіць перад усімі компартыямі на цяперашнім этапе кароткіх тэрмінаў насьпяваньня рэволюцыйнага крызісу, заключаецца ў падрыхтоўцы рабочай клясы і эксплёатуемых мас да рашаючых рэволюцыйных баёў, да барацьбы за дыктатуру пролетарыяту, пленум намеціў асноўны політычны і організацыйны зьмест гэтай падрыхтоўкі.

Гэтая падрыхтоўка павінна весьціся ў конкрэтнай барацьбе за большасьць рабочай клясы, за ліквідацыю масавага ўплыву соцыял-дэмократыі, за організацыю масавых рэволюцыйных выступленьняў пролетарыяту—супроць наступленьня капіталу, супроць фашызму і рэакцыі, супроць набліжэньня імпэрыялістычнай вайны і інтэрвэнцыі супроць Савецкага саюзу.

Чарговым зьвяном у рэволюцыйнай барацьбе пролетарыяту за ўладу становіцца масавая політычная стачка, а ў Германіі і Польшчы—усеагульная політычная стачка. Організуючы частковыя забастоўкі, не ўпадаючы ў экономізм, маючы заўсёды перад сабою блізкую рэволюцыйную пэрспэктыву—сэкцыі КІ павінны

наставіць ва ўсю шырыню задачу расшырэньня фронту штодзеннай барацьбы, палітызуючы гэтую барацьбу і папулярызуючы лёзунг масавай палітычнай стачкі.

Пытаньне аб заваяваньні ўлады павінна быць пастаўлена ў цэнтры комуністычнай агітацыі і прапаганды. Шляхам барацьбы за частковыя патрабаваньні компартыі павінны, у адпаведнасьці са ўзроўнем рабочага руху ў кожнай паасобнай краіне, падводзіць масы да проблемы заваяваньня ўлады.

Бальшавіцкім мэтодам заваяваньня мас астаецца самае пасьлядоўнае і самае рашучае прымяненьне тактыкі адзінага фронту зьнізу. Толькі шырокі адзіны фронт, выходным пунктам якога зьяўляецца стыхійная цяга мас да адзінства ў барацьбе супроць наступленьня капіталу, фашызму і вайны прывядзе да разгрому социял-дэмократыі, стане вагаром, які прыводзіць у рух мільённыя масы пролетарыяту пад комуністычным кіраўніцтвам.

Кожная компартыя абавязана ўмацаваць свае рады і свае пазыцыі на прадпрыемствах, і перш за ўсё на буйных прадпрыемствах, у рашаючых галінах прамысловасьці, спалучаючы старанную консьпірацыю комуністычных ячэек на прадпрыемствах з самаафярнай, сьмелай масавай работай.

Бальшавіцкая работа павінна базавацца на шырокім разгортваньні рэволюцыйнай работы ўнутры рэформісцкіх профсаюзаў і на ўсямерным умацаваньні масавай базы рэволюцыйных профорганізацый. Неабходна даць адпор усякай недаацэнцы гэтай работы, што часта прыкрываецца левай фразай.

Работа компартый павінна базавацца на шырокім разгортваньні пролетарскай дэмократыі ўнутры партыйных організацый, рэволюцыйных профсаюзаў, РПО, у экономічных баёх і т. д. Бальшавіцкая самакрытыка, шырокае абгаварэньне важнейшых палітычных пытаньняў, конкрэтнае кіраўніцтва зьяўляюцца ўмовамі далейшага быстрага разгортваньня рэволюцыйнага ўздыму пад комуністычным кіраўніцтвам.

Падвойную ўвагу пленум удзяліў пытаньню барацьбы компартый супроць імпэрыялістычнай вайны і падрыхтоўкі імпэрыялістамі ваеннай інтэрвэнцыі супроць Савецкага саюзу.

Ваенны напад Японіі на Кітай амаль усімі сэкцыямі КІ быў правільна ацэнен як прэлюдыя новай сусьветнай вайны і інтэрвэнцыі супроць СССР. Першыя весткі аб падзеях на ўсходзе выклікалі рэагаваньне ўсяе комуністычнай прэсы, ускалыхнулі компартыі і, ня гледзячы на паасобныя памылкі комдруку і адставаньне ў паасобных выпадках, сталі штуршком для раду рэволюцыйных выступленьняў мас у абарону незалежнасьці Кітаю, супроць яго разьдзелу, супроць японскага, француекага і ўсяго сусьветнага імпэрыялізму, у абарону СССР. Ініцыятарамі і кіраўнікамі гэтых выступленьняў усюды былі комуністы. Асабліва вялікімі зьяўляюцца заслугі ў гэтай галіне компартый Японіі і Кітаю.

Аднак, пленум констатаваў, што компартыі ня здолелі, прымяняючы тактыку адзінага фронту зьнізу, вырашыць неадкладную задачу стварэньня контрольных комітэтаў, комітэтаў дзеяньня на

прадпрыемствах, чыгунках, у партох, на суднах, комітэтаў, якія апіраюцца на масы, мобілізаваць шырокія масы рабочых, аб'яднаных у рэформісцкіх профсаюзах і астатніх масавых організацыях, разгарнуць агітацыю супроць вайны ў сялянскіх і шырокіх дробна-буржуазных масах наогул. Пленум констатаваў, што компартыямі ня быў дан дастаткова рэзкі адпор опортуністычнай недаацэнцы вайны ў Кітаі і недаацэнцы пагрозы імпэрыялістычных войн і інтэрвэнцыі, опортуністычнаму неразуменьню ўсяе сваясаблівасьці цяперашняга ўпаўзаньня ў вайну, паасобным пацыфісцкім адхіленьням, опортуністычнай пасыўнасьцю ў адносінах да вайны, фаталістычным настроям, знайшоўшым выражэньне ў тэорыях, што з вайны аўтаматычна вырасьце рэволюцыя.

Задачай усіх комуністычных партый зьяўляецца паказаць масам „вялікую тайну“ нараджэньня вайны, весьці сыстэматычную ідэолёгічную барацьбу супроць шовінізму і нацыяналізму, выкрываць усе мерапрыемствы буржуазіі, накіраваныя на організацыю вайны, растлумачваць масам усе манэўры соцыял-дэмократычных правадыроў і пацыфістаў для прыкрыцьця падрыхтоўкі вайны і інтэрвэнцыі.

Прымяняючы тактыку адзінага фронту зьнізу ўсюды, дзе ёсьць рабочыя, комуністы павінны шырока разгарнуць актываенную работу сярод салдат і матросаў капіталістычных армій, усямерна ўмацаваць свае позыцыі на прадпрыемствах ваеннай вытворчасьці, перашкодзіць перавозцы войск у Кітай і боепрыпасаў для Японіі.

Разам з гэтым сэкцыі Комінтэрну павінны выходзіць з таго, што самым рашаючым сродкам барацьбы з небясьпекай імпэрыялістычнай вайны і інтэрвэнцыі супроць СССР зьяўляецца рашучая барацьба супроць наступленьня капіталу і супроць фашызму, мобілізацыя мас у гэтай барацьбе і падвядзеньне іх да рашаючых баёў за дыктатуру пролетарыяту.

Для УсеКП(б) XII пленум ВККІ падкрэсьліў як важнейшую гістарычную задачу: „Няўхільна весьці далей політыку міру, цьвёрда правадзімую савецкай уладай, ня гледзячы на ўсё больш узмоцненую провокацыю імпэрыялістаў, і ў той-жа час узмацняць абароназдольнасьць СССР і ажыцьцяўленьнем вялікага пляну, соцыялістычнага будаўніцтва, згуртаваньнем усіх працоўных вакол савецкай улады, умацоўваць СССР як базу і цытадэль соцыялізму“ (Тэзісы па III пытаньні).

Усюды расьце цяга мас да компартый. Гэтыя масы шукаюць рэволюцыйнага кіраўніцтва ў вялікіх баёх, баёх, якія набліжаюцца. Задачай компартый зьяўляецца зьдзейсьніць гэтае кіраўніцтва. А для гэтага, больш, чым калі-небудзь, неабходна зжыць усе рэшткі соцыял-дэмократычных тэндэнцый у радох компартый, што зьяўляецца крыніцай правага ўхілу ўнутры комунізму, найбольш небясьпечнага на цяперашнім этапе, усякія ваганьні і хістаньні, опортуністычную пасыўнасьць, сэктанцкія тэндэнцыі, анархічныя і анарха-сындыкалісцкія прадрассудкі і ўсякага роду лявацкія загібы.

Сабраўшыся ў момант, калі ў ходзе агульнага крызісу капіталіз-

му адбываецца пэўны пералом у сувязі з канцом капіталістычнай стабілізацыі, XII пленум ВККІ прайшоў пад знакам блізкіх рэволюцыйных пэрспэктыў, пад знакам падрыхтоўкі да рашучых баёў за ўладу, за дыктатуру пролетарыяту.

Ня былі яшчэ апублікаваны матэрыялы пленуму, як узьнялася забастовачная хваля ў Германіі, яшчэ вышэй паднялася хваля савецкага руху і антыімпэрыялістычнай барацьбы ў Кітаі, партызанскага руху ў Манчжурыі, атрымаліся паведамленьні ў друку аб буйных посьпехах комуністаў на выбарах у Грэцыі.

Ужо гэтыя нямногія тыдні паказалі, што курс пленуму на набліжэньне рашаючых клясавых баёў, на блізкую рэволюцыйную пэрспэктыву, знаходзіць сваё поўнае апраўданьне.

Гэта зьяўляецца лішняй парукай у тым, што рашэньні пленуму адыграюць буйную мобілізуючую ролю ў справе ўмацаваньня масавай базы компартый, паслужаць штуршком да далейшай бальшавізацыі мас, да паскоранага перарастаньня ў радзе краін цяперашняга рэволюцыйнага ўздыму ў рэволюцыйны крызіс і ў рэволюцыйную сытуацыю.

---

## Разьмеркаваньне даходаў— важнейшая задача парторганізацый

# ПАСТАНОВА ЦК КП(б)Б

## Аб разьмеркаваньні даходаў у калгасах за 1932 г.

ЦК адзначае буйныя посьпехі, якія дасягнуты колгасамі БССР у 1932 г. Гэта вызначаецца ў тым, што пасеўная плошча колгасаў павялічылася да 60,6 проц; колгасы поўнасьцю выканалі плян веснавой сяўбы і лепш, чым у мінулым годзе правялі ўборку ўраджаю, скараціўшы тэрмін уборкі па аспоўных культурах на 15 дзён раней, чым у мінулым годзе. Усё гэта значна павысіла даходнасьць колгасьнікаў супроць мінулага году.

Дасягнутыя посьпехі ў організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў ёсьць вынік бальшавіцкай барацьбы за ажыцьцяўленьне пастаноў ЦК УсеКП(б) аб організацыі пастаянных вытворчых брыгад у колгасах, будаўніцтве новых МТС, укараненьні зьдзельшчыны, барацьбе з дробнабуржуазнай ураўнілаўкай, абязьлічкай,—рэзультат барацьбы за ажыцьцяўленьне лініі партыі ў галіне колгаснага будаўніцтва.

Адзначаючы станоўчыя вынікі, якія адыграла папярэдняя выдача грашовых натуральных авансаў у сэнсе ўздыму продукцыйнасьці працы ў колгасах і павышэньні зацікаўленасьці кожнага колгасьніка ў выніках колектыўнай працы, ЦК адначасова адзначае адсутнасьць выстарчальнай увагі з боку большасьці раённых і нізавых партыйных, савецкіх і зямельных колгасных організацый, а таксама МТС, да пытаньняў разьмеркаваньня даходаў у колгасах за 1932 г. Яшчэ не ўстаноўлена поўнасьцю папярэдняе складаньне пляну разьмеркаваньня даходаў, дакладны ўлік працы, выяўленьне працы лепшых брыгад і брыгадзіраў, вывучэньне становішча кожнага колгасу, зьнішчэньне ўраўнілаўкі, мэханічнага падыходу да кіраўніцтва колгасамі і т. д. Гэтым самым парторганізацыі ня ўлічваюць урокаў мінулага году: памылак і скажэньняў лініі партыі, дапушчаных пры разьмеркаваньні даходаў, што мела ў адмоўным сэнсе адбітак па радзе месц і раёнаў на організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і ў прыватнасьці зьявілася аднэй з прычын выхадаў з колгасаў у

веснавую пасеўную кампанію і ў часе ўборачнай.

ЦК надае выключна важнае гаспадарчае і палітычнае значэньне разьмеркаваньню даходаў у колгасах, за 1932 г. што непасрэдна зьвязана з далейшым організацыйна-гаспадарчым умацаваньнем колгасаў, умацаваньнем ролі брыгадзіра і брыгады як асноўнага зьвяна колгаснай вытворчасьці, сваячасовым выкананьнем цэнтралізаванага пляну загатовак, разгортваньнем колгаснага гандлю і павышэньнем ураджайнасьці.

ЦК КП(б)Б п а с т а н а ў л я е:

1. У тых колгасах, якія поўнасьцю выканалі ўстаноўлены для іх плян дзяржаўных загатовах і ссыпалі насенныя і фуражныя фонды, безадкладна прыступіць да разьмеркаваньня паміж колгасьнікамі ўсёй астатняй часткі належачых ім грошай, харчовых і кармовых продуктаў.

НКЗ і Колгасцэнтру БССР работу па складаньні плянаў канчатковага разьмеркаваньня даходаў у колгасах за 1932 г. разгарнуць так, каб скончыць разьмеркаваньне даходаў ва ўсіх колгасах да 15 студзеня 1933 г. і правесьці поўны разьлік і выдачу ўсіх належачых колгасьнікам даходаў па працаднёх не пазьней 1 лютага 1933 г.

Неабходна забясьпечыць правядзеньне ў жыцьцё ўказаньня ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб тым, што ільнаводчыя і канапляводчыя колгасы пасьля выкананьня пляну збожжазагатовак робяць разьмеркаваньне паміж колгасьнікамі 70—80 проц. ад агульнага фонду збожжа, якое належыць да разьмеркаваньня.

Астатнія 20—30 проц. фонду павінны быць разьмеркаваны паміж колгасьнікамі пасьля сканчэньня масавай апрацоўкі ільну і канапель, з улікам колькасьці працадзён, затрачаных кожным колгасьнікам на пасеў, уборку і апрацоўку гэтых культур.

Галоўнай і цэнтральнай задачай у рабоце колгасаў зьяўляецца барацьба за якасьць працы, і таму ЦК прапануе забясьпечыць пры разьмеркаваньні ўраджаю і даходаў правядзеньне ў жыцьцё ўказаньняў ЦК і СНК аб павышэньні і зьніжэньні ацэнкі працадня або колькасьці працадзён для брыгад і брыгадзіраў у межах ад 10 да 20 проц. у залежнасьці ад якасьці работы.

2. ЦК асабліва падкрэсьлівае як баявую задачу для ўсіх колгасаў сваячасовае выкананьне пляну загатовак і асабліва засыпку і стварэньне насенных і фуражных фондаў. У кожным колгасе пасьля выкананьня цэнтралізаванага пляну загатовак, не пазьней як праз дэкаду павінны быць створаны насенныя фонды ў разьмеры, якія-б поўнасьцю забясьпечылі насеньнем пасеўныя плошчы 1933 г.

Ускласьці непасрэдную адказнасьць за стварэньне і захаваньне насенных фондаў на старшыню колгасаў.

Даручыць РК КП(б)Б, РВК, РайКК і зямельна-колгасным органам да моманту канчатковага разьмеркаваньня даходаў у кожным колгасе праверыць правільнасьць складаньня пляну разьмеркаваньня даходаў і ў прыватнасьці дасканала праверыць ці прыцягнут актыў, ударнікі і брыгадзіры да абгаварэньня пляну разьмеркаваньня даходаў, а так-

сама ці праведзена абгаварэньне пляну на агульных сходах колгасьнікаў. Забараніць, дзе гэтыя мерапрыемствы не праведзены, прыступаць да разьмеркаваньня даходаў, поўнасьцю выканаўшы дырэктывы ЦК аб прыцягненьні колгасьнікаў да абгаварэньня плянаў разьмеркаваньня даходаў.

3. Абавязаць райкомы, РВК і зямельна-колгасныя органы поўнасьцю ажыцьцявіць дырэктыву аб тым, каб „пры разьмеркаваньні фуражу ўлічваць наяўнасьць жывёлы ў колгасьнікаў з тым, каб колгасьнікі, якія не атрымліваюць фуражу, або атрымліваюць менш фуражу, замест гэтага атрымлівалі іншы від натуральнай продукцыі, ня выходзячы, аднак, за межы ўстаноўленага ў даным колгасе разьмеру натуральных выдач на працадзень" (З пастановы ЦК УсеКП(б).

4. Паставіць у цэнтры ўвагі партыйных і зямельна-колгасных організацый барацьбу супроць разбазарваньня працадзён у колгасах. Абавязаць РК і зямельна-колгасныя органы дабіцца рашучага скарачэньня адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў, скарачыўшы іх да 1,5—2 проц.

Устанавіць такі парадак, што грамадзкія работы і гаспадарча-палітычныя кампаніі, як правіла, праводзяцца колгасьнікамі ў парадку грамадзкай нагрузкі без налічэньня працадзён.

Зьняць з аплаты за кошт колгасаў усіх асоб, ня маючых непасрэдных адносін да колгаснай вытворчасьці (сельскія выканаўцы, работнікі коопэрацыі, члены сельсаветаў, калі яны не працуюць на колгаснай вытворчасьці, апрача настаўнікаў. Катэгорычна забараніць усім раёнам і сельскім, партыйным савецкім і колгасным організацыям, утрыманьне за кошт колгасаў службовых асоб гэтых організацый, а таксама ўтрыманьне без аплаты колгасам розных упаўнаважаных і камандыраваных).

Пры разьмеркаваньні даходаў павінен быць строга праведзен такі парадак, пры якім адміністрацыйна-кіруючы склад колгасаў, незалежна ад колькасьці налічаных яму працадзён, не павінен атрымліваць вышэй тэй колькасьці натуральнай продукцыі, якую атрымлівае ў сярэднім у даным колгасе колгасьнік пастаяннай брыгады, які добрасумленна выконвае на працягу году ўсе даручаныя яму работы.

Пры разьмеркаваньні даходаў неабходна з тымі гаспадаркамі, якія выйшлі з колгасаў у часе веснавой сяўбы, а таксама ў часе ўборкі, разьлічвацца за фактычна выпрацаваную колькасьць працадзён.

5. ЦК КП(б)Б абавязвае за лік скарачэньня адміністрацыйна-кіруючых выдаткаў, перагляду і скарачэньня ўсялякага роду фондаў, зьніжэньня кошту новага будаўніцтва, зьнішчэньня страт пры апрацоўцы ільну, поўнага пераворваньня бульбы і скарыстаньня ўсёй наяўнай вольнай рабочай сілы на работах па вывазцы лесу, дарожным будаўніцтве і іншых работах дабіцца таго, каб колгасьнік атрымаў ва ўсялякім выпадку ня менш таго, што атрымана на рукі колгасьнікамі ў мінулым годзе пры абавязковым, першачарговым і поўным выкананьні пляну дзяржаўных загатовак, ссыпкі насенных фондаў.

6. Адзначаючы вялікую ролю МТС, як арганізатараў і кіраўнікоў колгаснай вытворчасьці, ЦК абавязвае аддзяленьні Трактарацэнтру, асабліва дырэктароў і кіраўнікоў вытворчых вучасткаў МТС наладзіць пастаянную дапамогу ў колгасах, што імі абслугоўваюцца, па разьмеркаваньні ўраджаю шляхам непасрэднага ўдзелу работнікаў МТС у разьмеркаваньні даходаў у кожным колгасе паасобку і на падставе правільнага разьмеркаваньня даходаў гэтага году дабіцца лепшай арганізацыі работы пастаянных вытворчых брыгад, укараненьня агротэхнікі і павышэньня ўраджайнасьці.

7. ЦК КП(б)Б лічыць работу па разьмеркаваньні даходаў у колгасах асноўнай задачай партыйных арганізацый на бліжэйшыя два месяцы і прапануе РК КП(б)Б і вясковым ячэйкам КП(б)Б забясьпечыць самае канкрэтнае апэрацыйнае кіраўніцтва кожным колгасам па ўсіх пытаньнях, зьвязаных з разьмеркаваньнем даходаў, прычым асаблівую ролю ў гэтай справе павінны адыграць ячэйкі і паасобныя комуністы колгасаў і МТС.

ЦК абавязвае РК КП(б)Б устанавіць такое кіраўніцтва справай разьмеркаваньня даходаў у колгасах, каб пры кожным выпадку зьніжэньня даходаў колгасаў і колгасьніка ў параўнаньні з мінулым годам, быў камандыраваны адказны прадстаўнік РК КП(б)Б для высьвятленьня прычын і прыняцьця неабходных мер на месцы.

Абавязаць усе райкомы і ячэйкі КП(б)Б абгаварыць зараз пытаньне аб разьмеркаваньні даходаў у колгасах і прыняць практычныя мерапрыемствы па правядзеньні гэтай важнейшай кампаніі.

8. У мэтах арганізацыі лепшага правядзеньня разьмеркаваньня даходаў і шырокай папулярызацыі дасягнутых посьпехаў у колгасным будаўніцтве, лічыць неабходным:

а) Даручыць культпропу ЦК, разам з Колгасцэнтрам, Навукова-дасьледчым колгасным інстытутам, газэтамі „Зьвязда“ і „Савецкая Беларусь“ укомплектаваць ня менш 3 літаратурных брыгады. Паставіць задачай гэтых брыгад на працягу ўсяго пэрыоду разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю не радзей аднаго разу ў пяціднеўку на вопыце конкрэтных колгасаў разгарнуць паказ на старонках газэт узораў правільнага разьмеркаваньня ўраджаю, а таксама дрэннай практыкі ў гэтай справе.

б) Даручыць Дзяржвыдавецтву Беларусі тэрмінова выдаць масавым тыражом ня меньш 2—3 популярных брошур аб разьмеркаваньні ўраджаю і даходаў у колгасах за 1932 г.

в) Абавязаць Культпроп ЦК і Колгасцэнтр у дэкадны тэрмін падрыхтаваць і выдаць макет насьценнай газэты па выніках гаспадарчага году ў колгасах, прадугледзеўшы ў макеце свабоднае месца для занясеньня провьвішчаў колгасьнікаў — сапраўдных ударнікаў колгаснай вытворчасьці, а таксама гультаёў і прагульшчыкаў, з вынікамі разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю.

г) Даручыць агітмасаваму аддзелу ЦК разам з Колгасцэнтрам укомплектаваць 2 моцныя брыгады і паслаць іх у два вяс-

ковыя раёны з абавязацельствам організаваць там узорную работу па разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю ў колгасах з тым, каб перадаць іх вопыт усім астатнім раёнам рэспублікі.

д) Вылучыць па адным працаўніку з складу раённага актыву на кожныя 5—7 колгасаў, абавязаўшы іх заставацца ў колгасах да поўнага сканчэньня работ па разьмеркаваньні даходаў.

е) Забясьпечыць такі парадак кіраўніцтва разьмеркаваньнем даходаў, пры якім скарга колгасьніка на няправільна праведзены з ім разьлік была-б уважліва разгледжана на працягу ня больш 3—5 дзён і па ёй былі-б прыняты адпаведныя меры.

ж) У ходзе разьмеркаваньня даходаў лічыць неабходным склікаць кустовыя нарады сакратароў як кіраўнікоў райза і дырэктароў МТС для абмену вопытам у справе організацыі разьмеркаваньня даходаў і прыняцьця раду мер для паляпшэньня пастаноўкі гэтай справы.

з) У пэрыод з 1-га сьнежня ўсім райкомам і райколгассаюзам правесьці раённыя нарады жаночага актыву колгасаў, з мэтай мобілізацыі жаночых мас для ўдзелу ў разьмеркаваньні даходаў у колгасах; правесьці таксама нарады ўсіх старшынь колгасаў, разам з рахунковымі працаўнікамі, па пытаньнях разьмеркаваньня даходаў у колгасах, на хаду выпраўляючы недахопы, выкрытыя ў гэтай рабоце.

і) Даручыць ЦК ЛКСМБ распрацаваць па сваёй лініі рад конкрэтных мерапрыемстваў, зьвязаных з павышэньнем удзелу і ролі комсамольскіх ячэек разьмеркаваньні даходаў.

9. Для конкрэтнай дапамогі колгасам у правядзеньні разьмеркаваньня даходаў даручыць Менскаму гаркому КП(б)Б і гарпрофсавету да 5 сьнежня г. г. мобілізаваць у дапамогу колгасам блізкіх раёнаў ня менш 150 рахунковых працаўнікоў, галоўным чынам за лік цэнтральных апаратаў; Гомельскаму ГК і гарпрофсавету—ня менш 75; Віцебскаму ГК і гарпрофсавету—ня менш 75; Магілеўскаму, Бабруйскаму і Аршанскаму РК і райпрафсаветам — ня менш, чым па 30 рахунковых працаўнікоў. Даручыць РК адначасова мобілізаваць наяўны ў раёне рахунковы апарат для дапамогі колгасам.

Гэта мобілізацыя павінна быць праведзена за лік рахунковых працаўнікоў, ведаючых умовы колгаснай вытворчасьці і здольных аказаць сапраўдную дапамогу колгасам.

10. Абавязаць агітмасавы аддзел ЦК КП(б)Б да 1-га сьнежня 1932 г. мобілізаваць 60 чалавек з ліку цэнтральнага актыву для пасылкі іх на месяц у дапамогу раёнам па правядзеньню работы па разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю ў колгасах. Організаваць самае ўважлівае інструктаваньне гэтых работнікаў, абавязаўшы т. т. Гікало і Шаранговіча выступіць на інструкцыйнай нарадзе.

Лічыць неабходным прымацаваць да асобных раёнаў на час работ па разьмеркаваньні ўраджаю і даходаў у колгасах членаў бюро ЦК і кіруючых цэнтральных работнікаў, абавязаўшы іх пабываць за гэты час у 2—3 колгасах і прыняць непасрэдны

ўдзел у рабоце па разьмеркаваньні даходаў.

11. ЦК КП(б)Б папярэджвае ўсе партыйныя, савецкія, зямельнаколгасныя організацыі і МТС, што разьмеркаваньне даходаў у колгасах будзе праходзіць ва ўмовах кулацкага супраціўленьня і імкненьня кулацтва правесьці разьмеркаваньне па ядоцкім, ураўнілаўскім „прынцыпе". Задача партыйных, савецкіх організацый організаваць масы на рашучы ўдар па кулацкай дзейнасьці і разгарнуць вакол разьмеркаваньня даходаў шырокую масава-політычную работу, з прыцягненьнем колгаснага актыву і мас колгасьнікаў.

Ва ўсёй масавай рабоце неабходна асабліва падкрэсьліць задачы выкананьня колгасамі сваіх абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай (загатоўкі сельскагаспадарчых продуктаў), разгарнуць рашучую барацьбу з безгаспадарчасьцю, безадказнасьцю, расхлябанасьцю, абязьлічкай у рабоце колгасаў, з дробнабуржуазнымі і рвацкімі антыдзяржаўнымі тэндэнцыямі сярод асобных груп адсталых колгасьнікаў. Выхаваньне ў колгасьніка пачуцьця гаспадара свайго колгасу, павышэньне яго зацікаўленасьці ў колектыўнай працы, замацаваньне асноўнага зьвяна колгаснай вытворчасьці—брыгады, разгортваньне баявой падрыхтоўкі да вясны, барацьба са стратамі і за павышэньне ўраджайнасьці соцыялістычных палёў,—усё гэта павінна быць у цэнтры агітацыйна-масавай работы па разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю ў колгасах.

---

# РАБОТА СЕТКІ ПАРТАСЬВЕТЫ Ў 1931-32 г.

I

Вынікі работы сеткі партасьветы за мінулы год сьведчаць аб тым, што КП(б)Б дабілася значнага зруху, як у галіне колькаснага ахопу сеткай партасьветы членаў і кандыдатаў партыі і беспартыйнага рабоча-колгаснага актыву, так і ў галіне палепшаньня зьместу работы партшкол. Павялічылася адказнасьць пропагандыстаў, выраслі запатрабаваньні саміх слухачоў да зьместу і якасьці работы партшкол.

Аднак, ня гледзячы на гэтыя дадатныя зрухі, яшчэ і да гэтага часу наглядаецца сыстэматычнае адставаньне ў галіне марксысцка-ленінскага выхаваньня, што асабліва падкрэсьлена ліпеньскім пленумам ЦК КП(б)Б, які адзначыў: „што параўнальна з узросшымі і ўскладненымі задачамі, якія стаяць перад партыяй у даны пэрыяд разгорнутага соцыялістычнага наступленьня, пастаноўка, узровень і размах організацыйна-партыйнай, масавай, палітвыхаваўчай работы ў большасьці гарадзкіх і раённых організацый КП(б)Б знаходзіцца ў нездавальняючым стане, і не адпавядае ўзрастаючым як колькасна, так і якасна запатрабаваньням партыйных, рабочых, колгасных мас“.

Асноўнымі недахопамі ў рабоце па марксысцка-ленінскім выхаваньні трэба адзначыць наступнае:

### 1. Недахопы комплектаваньня

Значная частка парторганізацый перад пачаткам навучальнага году здолела дабіцца здавальняючага правядзеньня растлумачальнай работы аб значэньні марксысцка-ленінскай тэорыі. Работа ў асноўным праводзілася ў цэхах, брыгадах, зьменах, колгасах, саўгасах і г. д. У выніку гэтай работы мы маем значны ахоп сеткай партыйнай асьветы комуністаў, комсамольцаў, рабочых і колгасных мас у пачатку навучальнага году.

Аднак, організацыі дапускалі мэханічна-формальны падыход да комплектаваньня партшкол. Парушаўся прынцып дабравольнасьці ў выбары форм вучобы. Адсутнічаў улік агульнай палітычнай падрыхтоўкі слухачоў. Ігнараваўся іх узростны склад. Ня рэдкімі былі выпадкі, калі ў аднэй і тэй-жа школе сустракаліся таварышы, маючыя падрыхтоўку ў аб'ёме ВСПШ і таварышы, якія ўпяршыню прыйшлі на палітзаняткі. Скрозь і ўсюды сустракаліся прыклады, калі ў адну і тую-ж школу вербаваліся таварышы ва ўзросьце

16—18 год і 40—50 год. Такі рознашорстны і рознабойны ў сэнсе палітпадрыхтоўкі і ўзросту склад слухачоў прыводзіць да паніжэньня зацікаўленасьці і да адсеву ў бліжэйшы-ж час пасьля комплектаваньня. Апроч гэтага радам організацый ня ўлічваліся вытворча-бытавыя ўмовы паасобных груп рабочых-комуністаў.

У выніку мы маем такое становішча, калі ствараліся агульна фабрычныя школы (Бабруйскі комбінат, Рэчыца—ім. Томскага, Барысаў і т. д.) у той час, як завод ці фабрыка працавала на тры зьмены, або агульна сельсавецкія партыйныя школы (Мазыр, Камарын і інш). Ясна, што гэта прыводзіла да зрыву і пропускаў слухачамі партыйных заняткаў, не гаворачы ўжо аб тым, што пры такой пабудове сеткі і вельмі цяжка, а часам і немагчыма наблізіць работу школ да непасрэднага абслугоўваньня вытворчасьці.

## 2. Недастатковая барацьба за якасьць партвучобы

Вельмі і вельмі дрэнна абстаяла справа з якасьцю партыйнай вучобы. Большасьць партячэек і партколектываў пасьля правядзеньня масавай работы па комплектаваньні паслаблялі сваю ўвагу да сеткі партасьветы. Лічылі справу зробленай. На пытаньне замацаваньня дасягнутых рэзультатаў у колькасных адносінах не зьвярталася належнай увагі. Такім чынам работа па партвучобе ператваралася ў нешта кампанейскае; работу сеткі партасьветы і камсамольскай палітвучобы пакідалі на апекаваньне пропагандыстаў або ў лепшым выпадку—культпропу. І атрымоўвала, што якасьцю і зьместам партыйнай вучобы партыйныя ячэйкі менш за ўсё цікавіліся, аддаючы гэты вучастак работы ў монополію культпропу і пропагандыстаў.

Забясьпечыць неабходную якасьць партвучобы можна толькі пры ўмове штодзеннага конкрэтнага опэратыўнага кіраўніцтва работай школ і гурткоў з боку партячэек, парткому ў цэлым і ў прыватнасьці сакратара ячэйкі. Трэба, каб сакратар ячэйкі парткому або колектыву ведаў: што робіцца ў школе, ці ёсьць патрэбнае і адпаведнае памяшканьне для работы? Ці ёсьць асьвятленьне? Ці ёсьць адпаведныя вучэбныя і наглядныя дапаможнікі? Трэба, каб сакратар ведаў ці здавальняе слухачоў сам кіраўнік? Ці вытрыман ён у партыйна-палітычных адносінах і т. д.?

Адсутнасьць увагі да гэтых асноўных патрабаваньняў у барацьбе за якасьць прыводзіць нас да таго, што мы з году ў год, маючы высокі процант ахопу комуністаў, комсамольцаў і беспартыйных рабочых і колгасьнікаў партвучобай увосень, г. зн. у пачатку навучальнага году, вясной выпускалі з школ літаральна адзінак. Так, увосень 1930-31 г. ахоп комуністаў складаў 73 проц., а ў сакавіку 1931 г іх ахоплена толькі 58,5 проц. Яшчэ большае зьніжэньне даў 1931 32 г. Увосень было ахоплена 76,1 проц. вясною-ж (1 красавіка 1932 г.) 49,4 проц. а калі ўзяць на той-жа час Менскую організацыю, то ахоп членаў партыі складае 20 проц.; кандыдатаў—23 проц. Віцебск у тым-жа парадку—37 і

30 проц. Веткаўская арганізацыя—25 і 33 проц. і т. д. Яшчэ горш абстаіць справа на буйнейшых прадпрыемствах. Там узрост работа сеткі партасьветы зрываецца („Сьцяг індустрыялізацыі", „Домбаль", ім. Варашылава). Гэта—рэзультат адсутнасьці **сыстэматычнага, конкрэтнага опэратыўнага кіраўніцтва партвучобай на працягу ўсяго году з боку партыйных**
арганізацый. Гэта—рэзультат адсутнасьці дыфэрэнцыяванага падыходу да слухачоў, адсутнасьці ўліку вытворча-бытавых умоў, адсутнасьці ўліку ўзростных асабліваций паасобных груп комуністаў, рабочых, колгасьнікаў.

## II

Пропагандыстам належыць рашаючая роля ў справе барацьбы за якасьць работы школы. Ад якасьці работы пропагандыста, ад чоткасьці даваемых слухачам установак залежыць якасьць і і ідэолёгічны зьмест вучобы. „Ва ўсякай школе, самае важнае—ідэйна-політычны напрамак лекцыі. Чым вызначаецца гэты напрамак? Цалкам і выключна складам лектароў" (Ленін, з лісту да слухачоў школы на востраве Капры).

Якое-ж мы маем становішча з пропагандыстамі? Склад пропагандыстаў па сваёй політпадрыхтоўцы вельмі слабы. Так, згодна вынікаў праведзенага уліку ў 41 раёне ўсіх штатных і пазаштатных пропагандыстаў было 1 192 чалавека. Па політадукацыі яны разьбіваліся наступным чынам: 86 чал. (7,3 проц.) з вышэйшай адукацыяй, 323 чал. (27,6 проц.) з сярэдняй адукацыяй, 555 чал. (48,1 проц.) з ніжэйшай адукацыяй, 203 чал. (17 проц.) з рознымі відамі самаадукацыі. Наогул атрымліваецца што 65% пропагандыстаў маюць падрыхтоўку вельмі нязначную. Апроч таго 53 проц. складу ўлічаных пропагандыстаў працуе 1—2 гады. Значная частка з іх упяршыню на пропрабоце і ня мае пэўных навыкаў пропагандысцкай работы, мэтодычна непадкавана; гэтыя кадры патрабуюць сыстэматычнай да сябе ўвагі, як у галіне павышэньня іх тэорэтычнага ўзроўню, так і ў галіне практычнай работы. А між тым кіраўніцтва і штодзенная дапамога ім з боку парткомаў і ячэек зьяўляецца вельмі нязначнай, калі не сказаць аб поўнай яе адсутнасьці ў радзе выпадкаў. Для пропагандыста не стваралі неабходных умоў для павышэньня яго тэорэтычнага ўзроўню. Не забясьпечвалі яго неабходнай літаратурай. Пропсэмінары, як правіла, ва ўсіх раёнах не працавалі, а калі і працавалі, то надта з вялікімі перабоямі. Пропагандыст перагружаўся іншай работай, бо пропработу ў радзе раёнаў і партыйных арганізацый прынята яшчэ і да гэтага часу лічыць неасноўнай партыйнай нагрузкай. Прыкладам бязьлітасна няўважлівых адносін да пропкадраў могуць служыць адносіны да штатных пропагандыстаў райкомаў з боку апошніх. Райкомы гэтыя нязначныя кадры ў большасьці загружаюць кампанейскай работай, перакідаюць з аднэй работы на другую і т. д.

У выніку, пропагандысты прыходзяць на заняткі непадрыхтаванымі; апошнія прыходзяць вяла, нудна, слухачы „сьпяць".

Заўсёды паўтараюцца факты ідэолёгічных скажэньняў, як напрыклад: пропагандыст растлумачвае цяжкасьці росту тым, што „пасьля вайны пашло хуткае размнажэньне людзей, павялічыліся запатрабаваньні“, а гнілы лібэралізм тлумачыцца „моладасьцю членаў партыі“. Або такі факт: „сёньня мы будзем прапрацоўваць пастановы ліпеньскага пленуму ЦК,—гаворыць пропагандыст,—давайце пачнем. Хоць некаторыя моманты ўжо і ўстарэлі, але ёсьць некаторыя моманты, якія маюць і цяпер значэньне“ і т. д.

Як недахоп трэба адзначыць і тое, што парторганізацыі зусім мала зьвярталі ўвагі прыцягненьню да пропагандысцкай работы старых бальшавікоў, райпартактыву (члены бюро РК, прэзыдыуму РКК і т. д.), ня гледзячы на тое, што аб гэтым была прамая дырэктыва з боку ЦК партыі.

Адсутнасьць мэтодычных навыкаў у пропагандыста, і дапамогі ў набыцьці іх прыводзіла да няўменьня організоўваць работу ў школе, увязаць пытаньні тэорэтычнай работы школы з гаспадарча-політычнымі задачамі партыі, штодзеннай работай партыйнай організацыі. Няўменьне організаваць работу слухачоў прыводзіла да таго, што ў радзе выпадкаў тэхнічна мала пісьменных саджалі за самастойную работу над кнігай і, наадварот, з добрападрыхтаванымі прымянялі супольную чытку. Наадварот, у тых організацыях, дзе ўсім гэтым пытаньням удзялялася штодзенная ўвага, там дзе змагаліся за якасьць работы школы, там мы маем захаваньне процанту ахопу партвучобай і нават новы прыліў. У гэтых організацыях наглядаецца сыстэматычны рост партыі за лік слухачоў партыйнай школы. Так, у Сіроцінскім раёне з слухачоў партшкол прынята 43 чал. у партыю і 4 чал. у КСМ, у Цераховскім раёне ў партыю прынята 30 чал. і т. д. У Клімавіцкім раёне сіламі партшколы пры колгасе імя „Праўда“ ў сельсавеце выпускаюцца 16 насьценных газэт, усе колгасьнікі разьбіты на брыгады. Ёсьць рад выпадкаў організацыі слухачамі чырвоных абозаў, стварэньне брыгад па правядзеньні пасеўнай кампаніі і т. д. (Дзяржынск).

У заключэньне неабходна спыніцца яшчэ на адным істотным недахопе,—адсутнасьці належнай увагі да пытаньняў выхаваньня нацменшасьцяй на іх роднай мове. Бясплянавасьць і да некаторай ступені самацёк у паасобных організацыях прыводзяць да таго, што, з 1244 партыйных школ на нацыянальных мовах прыблізна працуе толькі 27, з якіх на яўрэйскай мове 15 школ, на польскай—11 і 1 на нямецкай, што складае 2,2 проц. да ўсёй колькасьці школ (па матэрыялах 41 раёну). Па Гомелю з 192 школ працуе толькі адна на яўрэйскай мове. А між тым, калі ўзяць нацыянальны склад слухачоў партыйных школ, дык яўрэі і палякі складаюць 15,5 проц. Гэта ігнараваньне нацмоманту прыводзіць да таго, што ў радзе школ мы маем з боку паасобных слухачоў выступленьні з патрабаваньнем выкладаць на расійскай мове, прычым гэта тлумачаць тым, што на беларускай мове „нічога нельга зразумець“ (на

чыгунцы Менск, Гомель). Разам з гым ячэйкі не заўсёды своечасова і рашуча рэагавалі на гэтыя вялікадзяржаўна-шовіністычныя вылазкі.

Соцспаборніцтва і ўдарніцтва да гэтага часу не знайшлі сабе адпаведнага месца ў сыстэме партасьветы, таму што культпропы, пропагандысты і партыйныя ячэйкі конкрэтна не займаліся пытаньнем організацыі сацспаборніцтва ў партыйных школах. У сувязі з гэтым мы маем паасобныя партыйныя школы і партыйныя організацыі, якія формальна падыходзілі да заключэньня дагавароў, абмяжоўваліся прыёмам добрых рэзалюцый аб соцспаборніцтве, падымалі рукі за і,—і толькі. Сыстэматычнай-жа праверкі выкананьня ўзятых на сябе абавязкаў не праводзілася (Бярэзіна, Дзяржынск). Атрымлівалася ўпрост „гульня" ў соцспаборніцтва. Але ў большасьці партыйных школ гэтым пытаньнем не займаліся зусім.

Соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў сыстэме партыйнай асьветы павінны стаць мэтодам мобілізацыі слухачоў партшкол на барацьбу за якасьць партыйнай вучобы, за лепшы ўдзел у правядзеньні гаспадарча-політычных задач, якія стаяць перад заводам, колгасам, цэхам, брыгадай у барацьбе за выкананьне прамфінпляну, пасеўпляну сваёй вытворчасьці, як усёй школай, так і паасобнымі слухачамі.

III

Парторганізацыі КП(б)Б у сучасны момант знаходзяцца на адным з рашаючых момантаў разгортваньня і замацаваньня сеткі партыйнай асьветы на новы 1932—33 навучальны год. Памылкі мінулых год павінны быць ускрыты, улічаны і недапушчаны ў бягучай рабоце.

Бальшавіцкаму выхаваньню—бальшавіцкае кіраўніцтва,—вось што павінна легчы ў аснову работы партыйнай організацыі. Мы павінны ўсімі сіламі дабівацца ліквідацыі адставаньня марксысцка-ленінскага выхаваньня ад узросшых патрабаваньняў комуністаў, рабочых і колгасных мас, падняць яго на ўзровень вырасшых і ўскладненых задач сучаснага этапу соцыялістычнага будаўніцтва на ўзровень політычных задач другой пяцігодкі.

А для гэтага неабходна ў нашай працы па організацыі партыйнай вучобы і комплектаваньні сеткі партыйнай асьветы выходзіць „з задачы дыфэрэнцаванага падыходу да розных груп рабочых у залежнасьці ад вытворча-бытавых умоў, узросшых асаблівасьцяй, узроўню іх агульнай граматнасьці. Толькі пры гэтай умове мы здолеем дабіцца значнага паляпшэньня партыйнай вучобы і зьмяншэньня адсеву ў сетцы партыйнай асьветы" (Постышаў).

І трэба памятаць „што партыйнае выхаваньне зьяўляецца адным з важнейшых зьвеньняў партыйнай работы, што марксысцка ленінскае выхаваньне—гэта справа ўсёй організацыі, а ня толькі культпропаў і што яно патрабуе сыстэматычнага і опэратыўнага кіраўніцтва і праверкі выкананьня дырэктыў, якія даюцца ў гэтай галіне" (З пастановы ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б).

*М. Асаўляк.*

## МАРКСЫСЦКА - ЛЕНІНСКАЕ ВЫХАВАНЬНЕ НА ЗАВОДЗЕ ГОМСЕЛЬМАШ.

За апошні час значна ўзмацнілася ўвага партыйных і комсамольскіх організацый да справы марксысцка-ленінскага выхаваньня, у вялізарнай ступені ўзрасла зацікаўленасьць да пытаньняў марксысцка-ленінскай тэорыі ў радох членаў партыі і рабочых наогул. Аднак, пры наяўнасьці ўказаных зрухаў колькасны размах выхаваўчай работы і асабліва якасьць гэтай работы, усё яшчэ далёка не адпавядаюць вялізарным запатрабаваньням, якія прад'яўляюцца гіганцкімі задачамі, пастаўленымі перад партыяй і рабочай клясы ў другой пяцігодцы.

Завод Гомсельмаш не зьяўляецца выключэньнем. Калі мы зьвернемся да лічбаў, дык яны ярка падкрэсьліваюць адставаньне марксысцка-ленінскай вучобы на буйнейшым заводзе гомельшчыны.

Усяго рабочых на заводзе—1428 чал. Членаў партыі—158, кандыдатаў—118, комсамольцаў—300. Парторганізацыя заводу па партскладу маладая.

На заводзе організавана сетка партасьветы: аднагадовая саўпартшкола з ахопам 30 членаў КП(б)Б, 3 кандыдатаў, 4 комсамольцаў і 5 беспартыйных рабочых—усяго 42 чал. Тры кандыдацкіх партшколы з ахопам кандыдатаў партыі—39, комсамольцаў—6 і беспартыйных 31—усяго ахоплена кандыдацкімі партшколамі — 76 чал. Комсамольскай політшколай ахоплена 49 чал.

Такім чынам сеткай партасьветы ахоплена 30 членаў партыі, або 19 проц. да агульнага складу парторганізацыі; 42 кандыдаты партыі або 35 проц. усяго складу кандыдатаў; 10 комсамольцаў, або 3 проц. усяго складу комсамольцаў; 36 беспартыйных або 4,4 проц. усіх беспартыйных рабочых.

На заводзе організавана работа па ліквідацыі малапісьменнасьці. Усяго організавана 12 груп, у якіх вучыцца членаў і кандыдатаў партыі—120, комсамольцаў—147 і беспартыйных рабочых—649 чал.

Усяго па заводзе ахоплена ўсімі відамі вучобы 192 члены і кандыдаты партыі або 70 проц. усяго складу парторганізацыі. Колькі ахоплена вучобай кандыдатаў, у прыватнасьці — вестак у культпропе партколектыву няма.

Камсамольцаў ахоплена — 206 чал. або 65 проц. і беспартый-

ных рабочых—685 чал. або 80 проц.

Як відаць з вышэйпаданых лічбаў сеткай партасьветы ахоплен вельмі малы процант партыйцаў, комсамольцаў і беспартыйных рабочых. Такое становішча ня толькі па Гомсельмашу, а і па ўсім Гомелі. На некаторых прадпрыемствах сеткі партасьветы зусім няма: напр., на на чыгунцы (парткалектыў службы руху) пры наяўнасьці 42 кандыдатаў і 121 членаў партыі, майстэрні ОДД і інш.

Уся сыстэма як партасьветы, так і школ па ліквідацыі малапісьменнасьці, на заводзе Гомсельмаш не прыстасавана да вытворчых умоў: 12 школ (агульнаадукацыйных) займаюцца ў горадзе, аднагадовая саўпартшкола і адна кандыдацкая школа, таксама працуюць у горадзе і толькі тры кандыдацкіх школы працуюць непасрэдна на заводзе (зьмены). Такая пабудова сеткі значна зьніжае процант наведваньня. Напрыклад, на занятках 28/X у аднагадовай саўпартшколе прысутнічала ўсяго 13 асоб, або 30 проц. слухачоў, а на занятках кандыдацкай школы 12 асоб або 32 проц. Праўда, кандыдацкія школы на заводзе наведваюцца лепш, чым у горадзе.

Якасьць выкладаньня ў сетцы партасьветы стаіць не належнай вышыні. На занятках у аднагадовай СПШ пропагандыст чытае 40-мінутную лекцыю настолькі ціха, што нельга зразумець, аб чым ён гаворыць: успамінае ў лекцыі і 1905 год, і ліквідатараў, і адзавістаў, і ультыматыстаў, і трацкізм і цэнтрызм, і крызіс капіталізму, і дыктатуры пролетарыяту, і выкананьне пяцігодкі ў 4 гады і будаўніцтва соцыялізму і т. д. Калі-ж запыталі пропагандыста, аб чым ён гаварыў, то аказалася, што на мінулых занятках ён чытаў лекцыю аб 1905 годзе, а сёньня павінна быць чытка літаратуры, але кнігі Папова былі разданы тым слухачам, якія на гэтыя заняткі не зьявіліся, а таму пропагандыст вымушан быў яшчэ раз чытаць лекцыю аб 1905 годзе.

Пасьля лекцыі пропагандысту задаюць пытаньне аб Бундзе; ён адказвае: „Бунд—гэта буржуазная партыя“—і кропка. На другое пытаньне: „Ці было ў 1905 годзе распрацавана пытаньне аб савецкай уладзе?“—сьледуе адказ: „Было, бо былі організаваны саветы“ і ня гэтым —кропка. Разгорнутага тлумачэньня аб Бундзе, аб саветах 1905 году пропагандыст ня даў.

Кіраўнік кандыдацкай школы некалькі жывей вядзе заняткі, імкнецца перайсьці на гутарку, але гэта яму вельмі цяжка даецца, дзякуючы няўмелай пастаноўцы запытаньняў слухачам. Напрыклад, ён ставіць перад слухачамі такія пытаньні, якія сам як сьлед не асмысьліў: чаму імпэрыялізм — апошняя стадыя капіталізму, пры якой стадыі канкурэнцыі разгортваецца монополія і т. д. Не разумеючы гэтых пытаньняў, слухачы маўчаць. Абодвы пропагандысты да заняткаў рыхтуюцца, але сэмінары пропагандыстаў не наведваюць. Між тым, прысутнічаўшы на занятках заг. культпропу парткалектыву адзначыў, што гэта адны з лепшых пропагандыстаў.

Пераважная частка пропагандыстаў—маладыя, як па стажу

практычнай работы, так і па партыйнасьці. Тут вельмі важна арганізаваць дакладны інструктаж пропагандыстаў перад кожнай тэмай, перад кожнымі заняткамі. На пропсэмінары трэба абгаварваць сутнасьць тэмы, папярэджваючы гэтым самым магчымыя памылкі і вузка-кніжны падыход да справы. Трэба дабіцца ўменьня ўвязваць кожнае тэорэтычнае пытаньне з баявымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва.

А гэты вучастак работы яшчэ не наладжан. З пропагандыстамі работа сыстэматычна не вядзецца. Бюро партколектыву не арганізавала сыстэматычнага кіраўніцтва працай сеткі партасьветы ў нізавых партячэйках (цэхавых і зьменных ячэйках, партгрупах). Ня гледзячы на тое, што на бюро партколектыву пытаньне аб партасьвеце стаяла тры разы, аднак характар абгаварэньня гэтага пытаньня — агульны, неконкрэтны. Бюро партколектыву паасобных цэхавых ячэек справаздачы па пытаньнях партасьветы не заслухоўвала. Трэба адзначыць таксама, што кіраўніцтва партколектыву яшчэ і да гэтага часу конкрэтна пытаньнямі якасьці работы школ і гурткоў партыйнакомсамольскай асьветы не займаецца.

Чарговая задача: нахаду выправіць ускрытыя недахопы і памылкі ў разгортваньні марксыцка-ленінскага выхаваньня. Неабходна прыняць усе захады, каб ахапіць партвучобай усіх членаў і кандыдатаў партыі, арганізуючы гурткі, школы-аднадзёнкі і інш., школы па ліквідацыі малапісьменнасьці, сэмінары для партактыву, уцягнуць у існуючыя кандыдацкія школы не ахопленых партвучобай кандыдатаў. У сувязі з тым, што значная частка членаў і кандыдатаў КП(б)Б вучыцца ў агульнаадукацыйных школах, бюро партколектыву і асабліва культпропу трэба наладзіць штодзеннае кіраўніцва справай выкладаньня ў гэтых школах грамадзянскіх дысцыплін. Малапісьменных грамадаведаў школ неабходна ўцягнуць у сэмінары пропагандыстаў сеткі партасьветы.

Парторганізацыі неабходна арганізаваць непасрэдна на заводзе сэмінар пропагандыстаў, сыстэматычна правяраючы падрыхтаванасьць пропагандыстаў, аказваючы ім дапамогу па павышэньні іх тэорэтычнага ўзроўню; трэба праз пропсэмінары азнаямляць пропагандыстаў з умовамі вытворчасьці і тымі чарговымі задачамі, якія стаяць перад парторганізацыяй заводу.

Пабудову сеткі партасьветы трэба прыстасаваць да ўмоў вытворчасьці, організуючы школы непасрэдна ў цэху, зьмене, брыгадзе, і ўлічваючы запатрабаваньні рабочых. Трэба організаваць штодзенны ўлік наведваньня членамі і кандыдатамі школ, прыцягваючы паасобных слухачоў на бюро, практыкуючы заслухоўваньне справаздач паасобных ячэек КП(б)Б у партколектыве аб ходзе вучобы і г. д.

Пажадана ўключыць ва ўсе віды конкурсаў, якія праводзяцца на заводзе, асобныя пункты аб абавязацельствах рабочых па марксыцка-ленінскім выхаваньні; завесьці дошкі соцспаборніцтва цэху з цэхам, брыгады з брыгадай і т. д.

Вучоба комсамолу да гэтага часу неразгорнута. Партколектыву трэба ўзяць пад непасрэднае кіраўніцтва колектыў КСМ у гэтым пытаньні, дапамагчы комсамолу людзьмі і сродкамі для разгортваньня вучобы.

*Г. С.*

## НА ХАДУ ВЫПРАВІЦЬ НЕДАХОПЫ

*(Аб рабоце Гомельскага вячэрняга комвузу).*

Вячэрнія комвузы зьяўляюцца вышэйшай партшколай па ўзбраеньні партактыву марксысцка-ленінскай тэорыяй без адрыву ад практычнай работы.

Сетка ВК за апошнія гады значна вырасла (з 3-х—у 1930 г. да 10 у 1932 г.) у 1933 г. адкрываецца яшчэ пяць новых комвузаў, у буйных гарадох адкрываюцца філіялы ВК (Віцебск—чыгунка, Менск—чыгунка і вайсковы, Гомель — Нова-Беліца і вайсковы, Бабруйск — комбінат, Магілеў—чыгунка і т. д.).

Трэба сказаць, што ў рабоце значнай часткі ВК ёсьць значныя недахопы як па лініі організацыі вучэбнага процэсу, так, асабліва, і па лініі комплектаваньня.

Агляд Гомельскага ВК паказвае, што пры наяўнасьці добрых умоў для працы, ВК усё-ж такі поўнасьцю не ўкомплектаван. Гомельскі ВК мае лепшае ў горадзе памяшканьне, цалкам прыстасаванае да вучобы. Забясьпечан асьвятленьнем, абсталяваньнем, знаходзіцца ў цэнтры гораду і т. д. Выкладчыкамі і літаратурай ВК таксама ня дрэнна забясьпечан (карыстаецца бібліотэкай саўпартшколы).

Здавалася-б, што пры такіх умовах ВК павінен поўнасьцю выканаць разьвёрстку ЦК КП(б)Б. Але атрымалася наадварот: даная на 1932-33 навучальны год разьвёрстка ў 250 слухачоў, ня выканана.

На 27/X завербавана 83 слухачы, або 33 проц. заданьня.

Заняткі меркавалася пачаць 28/X у філіяле Нова Беліца на 30 слухачоў і ў вайсковай групе з 1/XI на 35 чал. Разам з філіяламі па ўсім Комвузу будзе, такім чынам, ахоплена 150 чал. альбо 60 проц. заданьня. Гэтае становішча наглядаецца ў партарганізацыі са значнай праслойкай вытворчага партактыву, асноўным відам марксысцка-ленінскай вучобы якога павінен зьявіцца комвуз.

Трэба таксама сказаць, што наведваньне вельмі слабае: на 2-м курсе сярэдні процант 72 (згодна зводкі), а на занятках 27/X прысутнічала толькі 48 проц. На 1-м курсе сярэдні процант наведваньня 54—57 (зводка), а 27/X прысутнічала 50 проц.

Гэтыя недахопы ў справе комплектаваньня і ў галіне наведваньня ствараюць пагражаючае становішча для работы.

ГК КП(б)Б разглядаў 22/IX пытаньне аб выніках комплектаваньня ВК і адзначыў недаацэнку паасобнымі партколектывамі і ячэйкамі справы комплектаваньня комвузу. У сваёй пастанове Гарком яшчэ раз запрапанаваў партколектывам забясь-

печыць поўнае выкананьне разьвёрсткі.

Ня гледзячы на гэта, буйныя прадпрыемствы і да гэтага часу ня выканалі разьвёрсткі. На 27/X мы маем наступны малюнак:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Завод Ланцуцкага — разьвёрстка | 25 чал., | выканала | 6. |
| Завод Гомсельмаш—разьвёрстка | 25 чал., | выканана | 5. |
| Завод Комінтэрн— „ | 15 чал., | „ | 3. |
| Завод Спартак— „ | 10 чал. | „ | 1. |

Кіраўніцтва вячэрняга комвузу таксама не забясьпечыла выкананьня гэтай дырэктывы. Невыстарчальна разгорнута масава-растлумачальная работа на прадпрыемствах, кіраўніцтва комвузу не зьвязвалася непасрэдна з партколектывамі і паасобнымі слухачамі, якія вылучаны на вучобу і не наведваюць заняткаў, не прасачыла за выкананьнем разьвёрсткі партколектывамі і несваячасова сыгналізавала перад гаркомам аб невыкананьні разьвёрсткі. Гэта стаўка на самацёк укомплектаваньне прывяла да таго, што дырэктыва ЦК КП(б)Б ня выканана.

Між тым для Гомельскай—парторганізацыі, пры наяўнасьці значнага рабочага актыву, разьвёрстка ў 250 слухачоў цалкам зьяўляецца выканальнай. Пры больш-жа выразнай і энэргічнай рабоце гэтае заданьне бязумоўна было-б нават перавыканана.

Трэба падкрэсьліць слабую работу па арганізацыі філіялаў ВК. Філіял у Нова-Беліцы пачаў заняткі толькі 28/X са значным спазьненьнем. Першыя заняткі гавораць аб радзе недахопаў. Слабае наведваньне, непадрыхтаваны памяшканьні і т. д.

У вайсковым філіяле два разы зрываліся заняткі з прычыны няяўкі выкладчыкаў.

Каб зьнішчыць усе гэтыя недахопы, кіраўніцтву ВК небходна зараз-жа перабудаваць сваю работа ў напрамку цеснай сувязі з партколектывамі і ячэйкамі КП(б)Б і дабіцца поўнага выкананьня разьвёрсткі. Неабходна зьвязацца з паасобнымі слухачамі, якія не наведваюць заняткаў, паведамляюць партколектывы аб пропусках слухачамі заняткаў. Зьвярнуць больш увагі на работу філіялаў. Дабіцца лепшай арганізацыі вучэбнага процэсу і павышэньня якасьці вучобы, забясьпечыць лепшымі выкладчыкамі, літаратурай і т. д., пэрыодычна асьвятляць работу ВК у цэнтральным і мясцовым друку.

*Сямёнаў.*

---

# Соцспаборніцтва і ўдарніцтва на фронце партвучобы

„Наша задача цяпер, калі соцыялістычны ўрад ва ўладзе,—організаваць спаборніцтва"

(Ленін).

„Прынцып соцыялістычнага спаборніцтва—таварыская дапамога адстаўшым з боку перадавых, з тым, каб дабіцца агульнага ўздыму"

(Сталін).

## АД РЭДАКЦЫІ

Соцспаборніцтва, ударніцтва—мэтоды соцыялістычнай працы. Соцспаборніцтва, ударніцтва зьявіліся магутным вагаром мобілізацыі мас на выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, на барацьбу супроць клясава-варожых вылазак. Соцспаборніцтва адыграе вялікую ролю ў выкананьні плянаў другой пяцігодкі, у барацьбе за пабудову бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва.

Соцспаборніцтва і ўдарніцтва яшчэ і да гэтага часу не заняло адпаведнага месца ў сыстэме партасьветы. А між тым у партыйнай вучобе яно павінна зьявіцца мэтодам бальшавіцкага выхаваньня слухачоў у барацьбе за якасьць партвучобы, у барацьбе за лепшае ўсваеньне прапрацоўваемых пытаньняў, за лепшы ўдзел у правядзеньні гаспадарча палітычных задач, якія стаяць перад заводам, колгасам, цэхам, брыгадай, у барацьбе за выкананьне прамфінпляну, пасеўпляну сваёй вытворчасьці, як усёй школай, так і паасобнымі слухачамі.

Асноўнымі недахопамі ў галіне соцспаборніцтва ў мінулым годзе зьявілася тое, што да заключэньня дагавораў падыходзілі формальна, яны былі мала конкрэтнымі і адсутнічала праверка выкананьня.

Часопіс „За ленінскую вучобу" сёньня зьмяшчае некалькі дагавароў, самаабавязацельстваў і выклікаў па пытаньнях партвучобы і гэтым адкрывае аддзел „Соцспаборніцтва і ўдарніцтва на фронце партвучобы".

Рэдакцыя зьвяртаецца да ўсіх сваіх чытачоў і супрацаўнікоў з просьбай прыняць актыўны ўдзел у рабоце гэтага аддзелу шляхам абгаварэньня недахопаў і дадатных бакоў тых дакумантаў аб спаборніцтве, якія будуць друкавацца, пачынаючы з дакумантаў зьмешчаных у даным нумары, шляхам дасылкі артыкулаў, заметак аб ходзе, формах і мэтах спаборніцтва і ўдарніцтва ў сетцы партасьветы.

Наш лёзунг: **Ударнік на вытворчасьці—ударнік у партвучобе!**

## СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫ ДАГАВОР

### на лепшую організацыю і правядзеньне політвучобы, заключаны паміж Нараўлянскім і Мазырскім раёнамі на 1932-33 навучальны год.

У мэтах марксысцка-ленінскай загартоўкі членаў і кандыдатаў партыі, павышэньня іх тэорэтычнага ўзроўню і падняцьця палітычнай баяздольнасьці комуністаў, комсамольцаў і беспартыйнага рабочага і колгаснага актыву за генэральную лінію партыі ў тэорыі і на практыцы—Нараўлянскі і Мазырскі райкомы КП(б)Б бяруць на сябе наступныя абавязкі:

1. Стопроцантны ахоп кандыдатаў і маладых членаў партыі партвучобай і ахоп ня менш 75 проц. усёй парторганізацыі сеткай партвучобы.

2. Поўнасьцю ахапіць сеткай партыйнай вучобы ўвесь комсамольскі актыў.

3. У склад ахопленых сеткай партвучобы ўцягнуць ня менш 50 проц. беспартыйнага рабоча-колгаснага актыву.

4. Ня менш 20 проц. слухачоў партвучобы павінна складацца з жанчын.

5. Устанавіць сталыя дні заняткаў для ўсёй сеткі партвучобы.

6. Пры кожнай школе мець сталы ўлік наведваньня і пасьпяховасьці слухачоў.

7. Падабраць кадры пропагандыстаў з найбольш вытрыманых і політычна падрыхтаваных членаў партыі.

8. Забясьпечыць сыстэматычнае кіраўніцтва і дапамогу комсамолу ў яго рабоце па політвучобе.

9. Забясьпечыць бесьперабойную працу сэмінараў пропагандыстаў і опэратыўнае кіраўніцтва з боку райкому ўсёй работай партвучобы.

10. Разгарнуць соцспаборніцтва паміж ячэйкамі і школамі на лепшую організацыю і правядзеньне партвучобы, асабліва на падняцьце якасьці партвучобы.

Арбітрам абраць газэту „Колгасьнік мазыршчыны".

## СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ ЎМОВА

### паміж аднагадовай базавай ВСПШ і 6-месячнай партшколай

Улічваючы вялізарнейшыя задачы і значэньне ўзбраеньня марксысцка-ленінскай тэорыяй, якая дае...практыкам сілу орыентоўкі, якасьць пэрспэктывы, упэўненасьць у рабоце, веру ў перамогу нашай справы" (Сталін), слухачы аднагадовай базавай ВСПШ і 6-месячнай базавай партшколы заключаюць паміж сабой соцыялістычную ўмову на лепшае пасьпяховае правядзеньне навучальнага году. Абавязуемся забясьпечыць наступныя конкрэтныя паказчыкі:

1. Забясьпечыць 100-процантную і своечасовую яўку ў школу.

2. Ня мець ніводнага пропуску заняткаў без уважлівых прычын.

3. Дэталёва прапрацоўваць усе заданьні.

4. Прапрацоўваць на даму ўсе рашэньні і пастановы партыі і ўраду.

5. Кожнаму слухачу выпісваць і рэгулярна чытаць газэты „Зьвязда" і „Маяк комуны".

6. Выпускаць у школах раз у месяц насьценгазэту і асьвятляць работу школ у раённым і цэнтральным друку.

7. Аднагадовай школе ўзяць шэфства над Лудчыцкім сельсаветам а 6-месячнай школе—над Быхаўскім колгасам „Шлях Леніна", дабіўшыся 100-процантнага выкананьня імі плянаў загатовак і аказаўшы ім адпаведную дапамогу ў правядзеньні ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній.

8. Аднагадовая ВСПШ бярэ шэфства над 6-месячнай партшколай у саўгасе „Лудчыцы".

9. За навучальны год правесьці 2 політбаі—адзін унутры аднагадовай школы і адзін паміж аднагадовай і 6-месячнай школамі.

10. Разгарнуць соцспаборніцтва сярод слухачоў унутры школ і ўвесьці чорную і чырвоную дошкі.

11. Паставіць пытаньне перад выкладчыкамі аб разгортваньні сярод іх соцспабцрніцтва.

Даручыць старасьце, сумесна з кіраўнікамі школ, штомесячна правяраць выкананьне гэтай умовы і дакладваць слухачам.

Умова абгаворана і аднагалосна прынята сумесным сходам слухачоў абедзьвюх школ.

## МАЕ АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ.

Улічваючы, што рашаючую ролю ў забесьпячэньні высокай якасьці марксысцка-ленінскай вучобы адыгрывае прапагандыст, ад падрыхтоўкі, зацікаўленасьці і адданасьці якога залежыць посьпех вучобы, я, прапагандыст аднагадовай ВСПШ і сэмінару партактыву, абавязуюся:

1. Зьяўляцца заўсёды на заняткі без усякіх спазьненьняў і ня мець ніводнага пропуску.

2. На заняткі заўсёды зьяўляцца добра падрыхтаваным.

3. Уцягваць у актыўную прапрацоўку кожнай тэмы ўсіх слухачоў.

4. Аказваць усямерную дапамогу рэдколегіі ў выпуску школьнай насьценгазэты.

5. Прыняць актыўны ўдзел у організацыі вызначаных у ВСПШ політбаёў.

Выклікаю на соцспаборніцтва прапагандыстаў тт. Казлова і Лук'янава.

*Левін.*

## ВЫКЛІКАЮ НА СОЦСПАБОРНІЦТВА.

Я, слухач аднагадовай ВСПШ, выклікаю на соцспаборніцтва тт. Казінец, Палавец і Ільманок на наступных паказчыках:

1. Зьяўляцца без спазьненьняў на заняткі і ня мець ні аднаго пропуску.

2. Добрасумленна і ўважліва адносіцца да заняткаў.

3. Чытаць матэрыялы на даму.

4. Выпісаць газэты „Зьвязда" і „Маяк комуны" на 1 год.

*А. Кілеса.*

---

ТЭМА:

# ДВА СЬВЕТЫ—ДЗЬВЕ СЫСТЭМЫ (КАПІТАЛІЗМ І СОЦЫЯЛІЗМ)

*(Для кіраўнікоў кандыдацкіх партшкол).*

## Разьдзел I

## КАПІТАЛІСТЫЧНАЕ ГРАМАДЗТВА

### 1. Програма партыі і Комінтэрну аб асноўных рысах капіталізму.

У выніку імпэрыялістычнай вайны 1914—1918 г. г. і Кастрычніцкай рэволюцыі, сьвет раскалоўся на два варожыя лягеры—лягер соцыялізму, які будуецца, і лягер капіталізму, які паміраe.

Програма партыі і Комінтэрну аб асноўных рысах капіталізму. Улада ў руках капіталістаў. Прыватная ўласнасьць капіталістаў і буйных зямляўласьнікаў на прылады і сродкі вытворчасьці (заводы, фабрыкі, транспорт, зямля). Аддзяленьне вытворцаў ад сродкаў вытворчасьці. Пагоня капіталістаў за прыбыткамі—асноўная мэта капіталістычнай вытворчасьці. Эксплёатацыя рабочай клясы і працоўных. Нераўнамерны падзел багацьцяў грамадзтва. Узбагачэньне невялічкай кучкі капіталістаў пры адначасова растучым зьбядненьні рабочай клясы. Разарэньне і зьбядненьне шматмільённых мас сялянства і гарадзкой дробнай буржуазіі. Арміі беспрацоўных. Уціск колёніяльных народаў. Нацыянальны уціск. Абвастрэньне ўсіх супярэчнасьцяй капіталізму пры яго апошнім этапе — імпэрыялізьме.

### 2. Імпэрыялізм—апошні этап капіталізму

Асноўныя рысы імпэрыялізму (ленінскае азначэньне імпэрыялізму). Монополіі (картэлі, сындыкаты, трэсты). Імпэрыялізм—паразытычны, загніваючы капіталізм. Імпэрыялізм ня толькі ня зьнішчае капіталістычных супярэчнасьцяй, але, наадварот, яшчэ больш абвастрае іх. Імпэрыялізм — пярэдадзень сусьветнай пролетарскай рэволюцыі. Кастрычніцкая рэволюцыя—пачатак і прадпасылка сусьветнай соцыялістычнай рэволюцыі.

### 3. Сучасны экономічны крызіс капіталізму.

Анархія вытворчасьці—асноўная рыса капіталістычнай вытворчасьці. Крызісы як пастаянныя спадарожнікі капіталістычнай вытворчасьці. „Аснова экономічных крызісаў перавытворчасьці заключаецца ў самой сыстэме капіталістычнай гаспадаркі. Аснова крызісу знаходзіцца ў супярэчнасьці паміж грамадзкім характарам вытворчасьці і прыватным характарам прысваеньня“ (Сталін).

Шкоднасьць і контррэволюцыйнасьць тэорыі бяскрывіснай, організаванай капіталістычнай гаспадаркі. Сучасны экономічны крызіс разьвіваецца на базе ўсеагульнага крызісу капіталізму, як крызісу капіталістычнай сыстэмы. Складанасьць гэтага крызісу: пераплёт прамысловага крызісу з аграрным, фінансавы крызіс. Абвастрэньне супярэчнасьцяй унутраных і зьнешніх паміж паасобнымі капіталістычнымі дзяржавамі. Абвастрэньне клясавай барацьбы. Паказчыкі непрымірымасьці клясавых супярэчнасьцяй у капіталістычным грамадстве. Пролетарская рэволюцыя—адзіны выхад для пролетарыяту з сучаснага крызісу.

Разьдзел II

## КАНЕЦ КАПІТАЛІСТЫЧНАЙ СТАБІЛІЗАЦЫІ І НОВЫ РЭВОЛЮЦЫЙНЫ ЎЗДЫМ

### 1. Савецкая сыстэма

Програма ЎсеКП(б) і Комінтэрну аб асноўных рысах савецкай дзяржавы—дзяржавы дыктатуры пролетарыяту. Прынцыповая розьніца паміж соцыялістычнай і капіталістычнай сыстэмамі гаспадаркі. У выніку Кастрычніцкай рэволюцыі ўлада капіталістаў зьвергнута і заменена ўладай рабочай клясы.

Фабрыкі, заводы, транспорт' зямля адабраны ў капіталістаў і памешчыкаў і перададзены ва ўласнасьць пролетарскай дзяржавы. Грамадзкая (соцыялістычная) уласнасьць—аснова нашага ладу. Грамадзкая ўласнасьць (дзяржаўная, коопэрацыйная, колгасная) сьвяшчэнна і недатыкальна. Разьмеркаваньне народнага даходу адбываецца ня ў інтарэсах узбагачэньня эксплёататарскіх кляс і іх шматлікай паразытычнай чэлядзі, а ў інтарэсах сыстэматычнага павышэньня матэрыяльнага і культурна-бытавога становішча рабочых і сялян і расшырэньня соцыялістычнай вытворчасьці ў горадзе і ў вёсцы. Партыя—організатар і кіраўнік рабочай клясы ў барацьбе за пабудову соцыялізму. Саюз рабочай клясы з працоўнымі масамі сялянства пад кіраўніцтвам пролетарыяту. Адсутнасьць эксплёатацыі і соцыялістычныя формы працы ў соцыялістычным сэктары народнай гаспадаркі. Заводы, фабрыкі, саўгасы, МТС, дзяржаўныя прадпрыемствы — прадпрыемствы паасьлядоўна-соцыялістычнага тыпу. Колгасы—соцыялістычны тып гаспадаркі.

## 2. Соцыялізм у СССР перамог.

Гіганцкі рост прамысловасьці і соцыялістычная перабудова сельскай гаспадаркі на аснове росту індустрыялізацыі СССР. Падрыў у корані клясавага расслаеньня вёскі, ператварэньне СССР у краіну самага буйнага ў сьвеце земляробства на аснове колгаснасаўгаснага будаўніцтва і ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі. Ператварэньне колгаснага сялянства ў цэнтральную фігуру земляробства і сапраўдную моцную апору савецкай улады ў вёсцы. Посьпехі і дасягненьні соцыялістычнага будаўніцтва БССР.

Павышэньне матэрыяльна-культурнага ўзроўню мас гораду і вёскі. Рост соцыялістычных форм і мэтодаў працы (соцспаборніцтва і ўдарніцтва). Узмацненьне саюзу народаў, якія насяляюць СССР, пад кіраўніцтвам рабочай клясы. Уступленьне ў пэрыод соцыялізму і завяршэньне пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі. Вырашэньне пытаньня „хто каго"? беспаваротна на карысьць соцыялізму ў горадзе і ў вёсцы. „СССР канчаткова замацаваўся на новым соцыялістычным шляху... Рашаючую перамогу соцыялізму ў СССР можна лічыць ужо завершанай". Партыя як кіраўнік і організатар перамог соцыялістычнага будаўніцтва. Барацьба на два фронты—за генэральную лінію партыі супроць правага опортунізму як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць „левага" опортунізму і прымірэнцтва да іх—асноўная ўмова посьпехаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Разьдзел III

## БАРАЦЬБА ДЗЬВЁХ ПРЫНЦЫПОВА ПРОЦІЛЕГЛЫХ СЫСТЭМ—КАПІТАЛІЗМУ І СОЦЫЯЛІЗМУ

Спроба капіталізму выйсьці з крызісу шляхам новых імпэрыялістычных войн, у першую чаргу, шляхам інтэрвэнцыі супроць СССР. Рост узброеньняў. Напад кітайскай контррэволюцыйнай ваеншчыны на Савецкі саюз у 1929 г. і япона-кітайская вайна (1932 г.), як спроба капіталістаў выйсьці з крызісу праз вайну і інтэрвэнцыю супроць Савецкага саюзу. Імкненьне японскіх імпэрыялістаў захапіць Далёкі Усход. Падтрымка і скарыстаньне імпэрыялістамі белагвардзейцаў. Зрыў гандлёвых зносін паміж Ангельшчынай і Савецкім саюзам. Провокацыі, якія ставяць сваёй мэтай выклік Савецкага саюзу на вайну. Імкненьне імпэрыялістаў адцягнуць увагу працоўных мас ад падрыхтоўкі імі войн шляхам размоў аб разбраеньні. Соцыял-дэмократызм (соцыял-фашызм) і контррэволюцыйны троцкізм—галоўная апора і авангард буржуазіі ў падрыхтоўцы да інтэрвэнцыі супроць СССР.

Мірная політыка Савецкага саюзу. „Ні аднэй пядзі чужой зямлі ня хочам, але і сваёй зямлі ні аднаго вяршка не аддамо нікому" (Сталін). Задача працоўных СССР і сусьветнага пролетарыяту ў барацьбе за мір, за ўмацаваньне абароны краіны дзе будуецца соцыялізм.

Умацаваньне Чырвонай арміі—кроўная справа рабочых, колгасьнікаў і працоўных сялян-аднаасобнікаў. Чырвоная армія—армія пролетарскай дыктатуры, прылада барацьбы за социялізм. Чырвоная армія—узброены саюз рабочай клясы з працоўным сялянствам—ахоўвае мірную працу рабочых і працоўных сялян СССР. Чырвоная армія—школа політычнага і гаспадарчага выхаваньня працоўных мас.

---

## СТАРОНКА ПРОПАГАНДЫСТА

Тэма „Два сьветы—дзьве сыстэмы" (капіталізм і социялізм) зьяўляецца першай тэмай у прогграме кандыдацкіх школ.

Стрыжнем усёй тэмы павінны зьяўляцца тры наступныя і асноўныя моманты: 1) поўнае растлумачэньне сутнасьці капіталістычнага грамадзтва, яго разьвіцьця і заняпаду; 2) у процілеглпасьць гэтаму—сутнасьць савецкай социялістычнай сыстэмы, законамернасьці яе разьвіцьця і росквіту і 3) неабходнасьць канчатковай рашучай сутычкі паміж гэтымі двума сыстэмамі, абавязковасьць перамогі социялістычнай сыстэмы ў сусьветным маштабе.

У першым разьдзеле кіраўнік павінен даць агульнае разуменьне пабудовы капіталістычнага грамадзтва і ленінскай тэорыі імпэрыялізму. Павінна быць растлумачана роля т. Леніна ў справе разьвіцьця вучэньня Маркса аб законах разьвіцьця капіталістычнага грамадзтва і асаблівасьцях эпохі імпэрыялізму.

На аснове марксысцка-ленінскага вывучэньня аб капіталістычным грамадзтве перайсьці да характарыстыкі сучаснага крызісу капіталістычнага грамадзтва. Спыніўшыся на тым, што ў капіталістычнай сыстэме вытворчасьці заўсёды існавалі крызісы і растлумачыўшы прычыны, параджаючыя гэтыя крызісы, кіраўнік спыняецца на асаблівасьцях сучаснага эканамічнага крызісу, які ахапіў увесь капіталістычны сьвет і разьвіваецца на базе ўсеагульнага крызісу капіталізму. Трэба паказаць абвастрэньне ўсіх супярэчнасьцяй капіталізму, імкненьне капіталістаў перакласьці ўвесь цяжар крызісу на плечы пролетарыяту і працоўных.

Неабходна выкарыстаць матэрыялы, факты, дыяграмы, якія штодзенна прыводзяцца ў нашай прэсе і сьведчаць аб далейшым паглыбленьні сусьветнага эканамічнага крызісу ў краінах капіталізму і аб посьпехах будаўніцтва социялізму ў СССР. Слухачы школы павінны ўсьвядоміць характарыстыку XII пленуму ВККІ аб тым, што капіталістычны сьвет перажывае цяпер канец капіталістычнай стабілізацыі, што ў сучасны момант адбываецца пераход да новага туру вялікіх сутычак паміж клясамі і дзяржавамі, да новага

туру рэволюцый і войн. Неабходна паказаць імкненьне буржуазіі праз социял-фашыстаў упэўніць пролетарыят у тым, што пры імперыялізьме зьнішчаюцца ўсе супярэчнасьці капіталізму, няма крызісаў, анархіі вытворчасьці і т. д. і т. д. Трэба паказаць, што і правыя опортуністы падпалі пад уплыў гэтых тэорый і высьніць слухачам шкоднасьць і контррэволюцыйнасьць гэтых тэорый.

Кіраўнік павінен даказаць слухачам процілегласьць паміж дзьвюма сыстэмамі (капіталістычнай і соцыялістычнай) гаспадаркі і на падставе гэтай процілегласьці сыстэм паказаць росквіт гаспадаркі ў СССР і заняпад яе ў капіталістычных краінах. Задача пропагандыста сыстэматызаваць і абагуліць тыя факты аб посьпехах соцбудаўніцтва ў СССР і БССР, якія падаюцца самімі слухачамі. Слухачам павінен быць ясны вывад „Два сьветы—два ітогі": уступленьне ў пэрыод соцыялізму—у нас, канец капіталістычных стабілізацый—у іх. Дзьве сыстэмы процістаяць адна другой.

Прапрацоўваючы трэці разьдзел, трэба заўважыць, што пытаньні будаўніцтва соцыялізму будуць дэталёва разглядацца ў наступных тэмах і што на гэтых занятках пытаньне разглядаецца толькі з пункту гледжаньня барацьбы дзьвюх сыстэм. Неабходна даказаць, што супярэчнасьць паміж капіталістычнай і соцыялістычнай сыстэмамі ніколі ня была так абвострана, як у сучасны момант, калі закончана першая пяцігодка. Трэба паказаць, што сілы соцыялістычнай рэволюцыі ўзрастаюць ва ўсім сьвеце, што разам з гэтым усё больш ашалела наступае контррэволюцыя і што імпэрыялістычныя ўрады гатовы кінуць народы ў вайну, найбольш злачынную з усіх злачынных імпэрыялістычных войн. Паказаўшы нарастаньне ваеннай небясьпекі трэба высьветліць ганебную ролю соцыял-фашыстаў і трацкістаў, як авангарду ў падрыхтоўцы інтэрвэнцыі супроць СССР.

Трэба паказаць факты гэтай падрыхтоўкі (безрэзультатнасьць шматгадовай работы конфэрэнцыі па разбраеньні, матэрыялы газэт і часопісаў аб узрастаньні ўзбраеньняў і т. д.).

Кіраўнік паказвае мірную палітыку СССР і яе вытрыманасьць, што зьяўляецца вынікам ня слабасьці дзяржавы, а яе ўзмацненьня і імкненьня да міру. Адсюль кіраўнік выводзіць тыя задачы, якія паўстаюць перад пролетарыятам і працоўнымі Савецкага саюзу (конкрэтна перад самімі слухачамі) у галіне выкананьня прамфінпляну, што павялічвае абароназдольнасьць нашай краны, у галіне па-завайсковай падрыхтоўкі і організацыі работы Асоавіяхіму, у галіне сувязі з Чырвонай арміяй, палепшаньні марксысцка-ленінскага выхаваньня і т. д.

## ЛІТАРАТУРА ДЛЯ КІРАЎНІКОЎ

Д разьдзелу .

1. Програма ЎсеКП(б).
2. Програма КІ, разьдз. 1.
3. Ленин.—„Империализм как высшая стадия развития капитализма".
4. Сталин,—Політсправаздача XVI зьезду, пункт 8, разьдз. II.

5. Сталін,—Аб асновах ленінізма, разьдз. 1, „Гістарычныя карэньні, ленінізму".

Да разьдзелу II

1. Програма КІ, разьдз. II.
2. Сталін, — Даклад XVI зьезду, разьдз. I, пункт 8 другога разьдзелу,
3. Молатаў,—Даклад аб другой пяцігодцы.
4. Рэзолюцыі XVII партконферэнцыі па дакладах тт. Молатава Куйбышава.
5. Даклад т. Сталіна на апошнім пленуме ЦК УсеКП(б).

Да разьдзелу III

1. Рэзолюцыі XI пленума ВККІ.
2. Тэзісы, прынятыя XII пленумам ВККІ па дакладу г. Куусінена.
3. „Большевик" № 15, арт. Мад'яра „Сусьветны экономічны крызіс і развал стабілізацыі капіталізму".

## ЛІТАРАТУРА ДЛЯ СЛУХАЧОЎ.

Інгулаў,—Два сьветы—дзьве сыстэмы
Волін,—Падручнік для кандыдацкіх школ.
Сталін—Даклад на апошнім пленуме ЦК УсеКП(б).

ТЭМА:

# ПРАЗ ДЫКТАТУРУ ПРОЛЕТАРЫЯТУ ДА КОМУНІЗМУ

*(Заданьне для кіраўнікоў кандыдацкіх партыйных школ)*

## Разьдзел I

## КОМУНІЗМ—КАНЧАТКОВАЯ МЭТА БАРАЦЬБЫ ПРОЛЕТАРЫЯТУ.

### Вучэньне марксызму-ленінізму пра дзьве фазы комунізму.

1. Зьнішчэньне капіталізму і замена яго ва ўсім сьвеце комунізмам—канчатковая мэта комуністычнай партыі.

2. Асноўныя рысы комуністычнага ладу: грамадзкая ўласнасьць на прылады і сродкі вытворчасьці; адсутнасьць падзелу грамадзтва на клясы; сьвядомая і плянамерная організацыя грамадзкай вытворчасьці, накіраваная на задавальненьне хутка ўзрастаючых грамадзкіх патрэбнасьцяй; гіганцкае разьвіцьцё вытворчых сіл на аснове вышэйшай тэхнікі; адсутнасьць процілегласьці паміж горадам і вёскай; разьмеркаваньне па прынцыпу „ад кожнага па яго здольнасьцях, кожнаму па яго патрэбнасьцях“; „Праца перастае быць толькі сродкам для жыцьця“, зьнікне розьніца паміж разумовай і фізычнай працай; стварэньне ўмоў для нябачанага ўздыму культуры і ўсебаковага разьвіцьця людзей, адміраньне рэлігіі, прадрассудкаў і забабонаў. Дзяржава на вышэйшай стадыі комунізму адамрэ.

3. Дзьве стадыі ў разьвіцьці комунізму. Соцыялізм як першая стадыя комунізму. Характэрныя рысы соцыялізму. Соцыялізм—комуністычнае грамадзтва, якое „яшчэ толькі выходзіць з капіталістычнага грамадзтва, выходзіць пакрытым ва ўсіх адносінах—экономічных, моральных, разумовых—радзімымі плямамі старога грамадзтва, з улоньня якога яно нараджаецца“ (Програма Комінтэрну).

Зьнішчэньне прыватнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці; зьнішчэньне клясаў і эксплёатацыі чалавека чалавекам. Разьмеркаваньне продуктаў па працы, у выніку яшчэ недастатковага разьвіцьця грамадзкай вытворчасьці. Асноўны соцыялістычны прынцып: „За роўную колькасьць працы роўную колькасьць продукту“.

Неабходнасьць уліку і контролю за грамадзкай вытворчасьцю і разьмеркаваньнем продуктаў. Самая строгая ахова грамадзкай уласнасьці. Неабходнасьць захаваньня і ўмацаваньня дзяржаўнай улады пролетарыяту.

## Разьдзел II

### Вучэньне Леніна і Сталіна аб пераходным пэрыодзе і дыктатуры пролетарыяту.

1. Немагчымасьць непасрэднага пераходу ад капіталізму да комунізму. Неабходнасьць пераходнага ад капіталізму да комунізму пэрыоду.

„Ад капіталізму чалавецтва можа перайсьці непасрэдна толькі да соцыялізму, г. зн. да агульнаґа аўладаньня сродкамі вытворчасьці і разьмеркаваньня продуктаў паводле работы кожнага“ (Ленін).

Немагчымасьць мірнага пераходу ад капіталізму да соцыялізму. Няўнікнёнасьць дыктатуры пролетарыяту, як самай неабходнай і рашучай прадпасылкі ператварэньня капіталістычнага грамадзтва ў комуністычнае. Закон нераўнамернага разьвіцьця капіталізму і магчымасьці перамогі рэволюцыі спачатку ў частцы краін і нават у аднэй, паасобна ўзятай капіталістычнай краіне. Магчымасьць суіснаваньня ў пэўны пэрыод дзьвюх систэм. Няўнікнёнасьць вайны капіталізму супроць пролетарскай дзяржавы. Ленін і Сталін аб магчымасьці пабудовы соцыялізму ў СССР. Барацьба партыі за пабудову соцыялізму ў СССР супроць трацкізму, стаўшага перадавым атрадам контррэволюцыйнай буржуазіі і адмаўляўшага магчымасьць перамогі соцыялізму ў аднэй краіне, супроць правых опортуністаў, якія скаціліся на справе на пункт гледжаньня адмаўленьня магчымасьці пабудовы соцыялізму ў нашай краіне.

2. Дыктатура пролетарыяту— улада рабочай клясы. Сталін аб трох баках дыктатуры пролетарыяту (падаўленьня эксплёататараў, уцягненьня працоўных у справу соцыялістычнага будаўніцтва пад кіраўніцтвам пролетарыяту, пабудова бясклясавага грамадзтва).

„Дыктатура пролетарыяту ня ёсьць сканчэньне клясавай барацьбы, а ёсьць працяг яе ў новых формах“. „Дыктатура пролетарыяту ёсьць упорная барацьба, крывавая і бяскроўная, гвалтоўная і мірная, ваенная і гаспадарчая, пэдагогічная і адміністрацыйная супроць сіл і традыцый старога грамадзтва“. Вышэйшы прынцып дыктатуры пролетарыяту — гэта захоўваньне саюзу пролетарыяту з сялянствам, каб пролетарыят мог утрымаць кіруючую ролю і дзяржаўную ўладу. „Пры дыктатуры пролетарыяту прыдзецца перавыхаваць мільёны сялян і дробных гаспадарчыкаў, сотні тысяч служачых, чыноўнікаў, буржуазных інтэлігентаў, падначальваць іх усіх пролетарскай дзяржаве і пролетарскаму кіраўніцтву, перамагаць у іх буржуазныя звычаі і традыцыі“, таксама, як неабходна будзе „перавыхоўваць у працяглай барацьбе на глебе дыктатуры пролетарыяту і саміх пролетараў, якія ад сваіх прыватных дробнабуржуазных прадрассудкаў пазбаўляюцца не адразу, ня цудам, не па загаду

маткі боскай, не па загаду лёзунгу, рэзолюцыі, дэкрэту, а толькі ў доўгай і працяглай клясавай барацьбе з масавымі дробнабуржуазнымі ўплывамі" (Ленін).

Пролетарыят прадстаўляе сабой і ажыцьцяўляе больш высокі тып грамадзкай організацыі працы ў параўнаньні з капіталізмам. Галоўная сутнасьць дыктатуры пролетарыяту ў організаванасьці і дысцыплінаванасьці перадавога атраду працоўных, яго авангарду, яго адзінага кіраўніка—пролетарыяту. Савецкая дзяржава пролетарыяту ёсьць яго дыктатура, яго клясавае адзінаўладзьдзе. Рэспубліка Саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў зьяўляецца ня толькі формай больш высокага тыпу дэмократычных устаноў, але і адзінай формай, здольнай забясьпечыць найбольш безбалючы пераход да социялізму.

Партыя — асноўная кіруючая сіла ў пролетарскай дзяржаве. Рабочая кляса—правадыр працоўных мас СССР. Роля масавых організацый пролетарыяту—профсаюзы, саветы, коопэрацыя, комсамол—у пролетарскай дзяржаве.

3. Асноўныя ступені будаўніцтва социялізму ў нашай краіне пасьля Кастрычніцкай рэволюцыі. Пасьлякастрычніцкі пэрыод. Ваенны комунізм. Новая экономічная політыка і яе этапы: аднаўленчы, рэконструкцыйны і апошні этап нэпу—першы пэрыод социялізму. Уключэньне асноўных мас сялянства ў актыўнае будаўніцтва социялізму пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго партыі Паварот асноўных мас сялянства да социялізму. Пытаньне „хто каго?“ вырашана на карысьць социялізму як у горадзе, так і на вёсцы. Канчатковае замацаваньне нашай краіны на социялістычным шляху.

4. XVII партыйная конфэрэнцыя аб канчатковай ліквідацыі капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, аб поўным зьнішчэньні прычын, якія параджаюць клясавыя розьніцы і эксплёатацыю як аб карэннай задачы пабудовы социялістычнага грамадзтва ў СССР у другой пяцігодцы.

Немагчымасьць ліквідацыі капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, а таксама поўнага зьнішчэньня прычын, якія параджаюць клясавыя розьніцы і эксплёатацыю, бяз самай жорсткай клясавай барацьбы.

Няўнікнёнасьць абвастрэньня клясавай барацьбы і ў далейшым у паасобныя моманты, асабліва ў паасобных раёнах і паасобных вучастках социялістычнай будоўлі.

Опортуністычная тэорыя правых аб затуханьні клясавай барацьбы ў пераходны пэрыод, аб мірным урастаньні кулака ў социялізм. Праваопортуністычны характар сьцьверджаньня аб тым, што пэрыод другой пяцігодкі ёсьць пэрыод мірнага і плаўнага разьвіцьця.

Неабходнасьць далейшага ўмацаваньня пролетарскай дзяржавы: для вырашэньня задач ліквідацыі капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, падаўленьня ўсякіх контррэволюцыйных вылазак буржуазіі, для кіраўніцтва социялістычнай пераробкай сельскай гаспадаркі, для кіраўніцтва ўсім будаўніцтвам социялізму.

## СТАРОНКА ПРАПАГАНДЫСТА.

Прапрацоўваючы пытаньне аб комунізьме як канчатковай мэце комуністычнай партыі, кіраўнік павінен асабліва падкрэсьліць ролю комуністычнай партыі—перадавога і організаванага атраду рабочай клясы ў выкананьні яе гістарычнай місіі — зьвергнуць буржуазію, заваяваць дыктатуру пролетарыяту і пабудаваць комуністычнае грамадзтва.

Пры характарыстыцы комуністычнага грамадзтва галоўную ўвагу неабходна прысьвяціць распрацоўцы пытаньня аб яго ніжэйшай фазе — социялізьме. Дзеля таго, каб навукова растлумачыць слухачам розьніцу паміж социялізмам і комунізмам неабходна ўважліва распрацаваць разьдзел IV з „Програмы Комінтэрну“ і разьдзел V з кнігі Леніна „Дзяржава і рэволюцыя“ (т.XXI, стар. 429—441, выд. 3-е). Неабходна растлумачыць слухачам усю шкоднасьць дробнабуржуазнай ураўнілаўкі, якая грае на руку клясаваму ворагу; трэба паказаць усё значэньне ўліку і контролю па першай фазе комунізму і на аснове гэтага, ўсё значэньне дэкрэту аб ахове грамадзкай уласнасьці.

Даўшы характарыстыку дзьвёх фаз комунізму, кіраўнік павінен паказаць слухачам сусьветна-гістарычнае значэньне вадач, якія паставіла XVII партконфэрэнцыя ў галіне канчатковага зьнішчэньня капіталістычных элемэнтаў і кляс наогул.

У разьдзеле аб пераходным пэрыодзе трэба асабліва спыніцца на ролі Леніна і Сталіна ў справе разьвіцьця вучэньня Маркса аб пераходным пэрыодзе як пэрыодзе рэволюцыйнага пераратварэньня капіталістычнага грамадзтва ў социялістычнае.

Трэба, каб слухачы ўсьвядомілі, што галоўнае ў ленінізьме— гэта вучэньне аб дыктатуры пролетарыяту аб тым, што дыктатура пролетарыяту ня ёсьць заканчэньне клясавай барацьбы, а яе працяг у новых формах. Слухачы павінны ўсвоіць, што толькі тры бакі дыктатуры пролетарыяту (узяць азначэньне т. Сталіна) усе разам даюць поўнае, закончанае разуменьне дыктатуры пролетарыяту. Трэба паказаць слухачам, што вышэйшым прынцыпам дыктатуры пролетарыяту зьяўляецца захаваньне саюзу з сялянствам пад кіраўніцтвам пролетарыяту для зьнішчэньня кляс.

Кіраўнік спыняецца на тэй барацьбе, якую правяла партыя з контррэволюцыйным трацкізмам, які паратварыўся ў перадавы атрад сусьветнай контррэволюцыі, які поўнасьцю адвяргае магчымасьць перамогі социялізму ў аднэй краіне, які ня верыць у здольнасьці пролетарыяту далучыць да социялістычнага будаўніцтва асноўныя масы сялянства.

Неабходна спыніцца на барацьбе партыі з правымі, з іх адмаўленьнем кіруючай ролі пролетарыяту ў саюзе з сялянствам, з тэорыямі затуханьня клясавай барацьбы і ўрастаньня кулака ў социялізм. Трэба паказаць на прыкладзе контррэволюцыйнай групы Руціна, Іванова, Галкіна і інш., як правыя скатваюцца да контррэволюцыі.

Трэба паказаць, што вялізарнейшыя сусьветная гістарычныя перамогі дасягнуты дзякуючы няўхільнаму правядзеньню генэральнай лініі партыі і ленінскай нацполітыкі, у прыватнасьці, што толькі ў рашучай барацьбе як з „левым“, так і з правым опортунізмам і прымірэнцтвам да іх УсеКП(б) забясьпечыла разгром клясавага ворага і перамогу соцыялізму ў СССР.

Трэба паказаць ролю партыі ў сыстэме дыктатуры пролетарыяту (па гэтым пытаньні школа будзе распрацоўваць асобную тэму і тут неабходна падкрэсьліць толькі асноўныя рысы).

Заняткі трэба закончыць пытаньнем аб неабходнасьці ўмацаваньня дыктатуры пролетарыяту, популярызуючы пастановы XVII партконфэрэнцыі па гэтым пытаньні. і рашэньні апошняга пленуму ЦК УсеКП(б).

## ЛІТАРАТУРА ДЛЯ КІРАУНІКОУ

### Да разьдзелу I.

Програма ЎсеКП(б)—уступ.

Програма Комуністычнага інтэрнацыяналу—уступ, разьдзелы III, IV.

Ленін—Дзяржава і рэволюцыя, разьд. V, т. XXI, стар. 429—441, выд. 3-е

Молатаў—Справаздача на XVII партконфэрэнцыі (аб палітычных задачах II-й пяцігодкі).

### Да разьдзелу II.

**Сталін** — Пытаньні ленінізму — выд. 1932 г., стар. 26—34, 74—93, 180—215, 375—377, 519—524.

Рэзолюцыі XVIII партконфэрэнцыі.

Даклады т. Сталіна, Молатава і Куйбышава на студзеньскім пленуме ЦК УсеКП(б)

## ЛІТАРАТУРА ДЛЯ СЛУХАЧОУ

**Волін** — Падручнік для кандыдацкіх школ. Даклады т. Сталіна, Молатава і Куйбышава на студзеньскім пленуме ЦК УсеКП(б).

---

# МАРКСЫЗМ-ЛЕНІНІЗМ

*(Заданьне па ленінізму для аднагадовых ВСПШ)*

## ПЛЯН ТЭМЫ:

### I. Марксызм і гістарычныя ўмовы яго ўзьнікненьня.

1. Марксызм як сьветапогляд пролетарыяту.

2. Гістарычныя ўмовы ўзьнікненьня марксызму:

а) Разьвіцьцё супярэчнасьцяй капіталістычнага грамадзтва і самастойнае выступленьне пролетарыяту.

б) Тэорэтычныя крыніцы марксызму: англійская палітычная экономія, францускі соцыялізм, нямецкая клясычная філёзофія.

в) Разьвіцьцё прыродазнаўства (адкрыцьцё закону захаваньня энэргіі. Адкрыцьцё клеткі. Дарвін).

3. Характарыстыка састаўных частак марксызму, іх адзінства.

4. Адзінства рэволюцыйнай тэорыі і практыкі. Марксызм ня догма, а кіраўніцтва для дзеяньня.

5. Значэньне і роля рэволюцыйнай тэорыі і тэорэтычнай барацьбы для клясавай барацьбы пролетарыяту. Партыйнасьць тэорыі.

### II. Ленінізм як новая вышэйшая ступень у разьвіцьці марксызму

1. Гістарычны лёс марксызму. Опортунізм у II Інтэрнацыянале.

2. Ленінізм як аднаўленьне, конкрэтызацыя і далейшае разьвіцьцё марксызму ва ўмовах новай эпохі—эпохі імпэрыялізму і пролетарскай рэволюцыі, як непасрэдны працяг і разьвіцьцё марксызму, як марксызм эпохі імпэрыялізму і пролетарскай рэволюцыі.

3. Крытыка трацкісцка-зіноўеўскага і бухарынскага адмаўленьня ленінскага этапу ў разьвіцьці марксызму.

4. Галоўнае ў ленінізьме — вучэньне аб дыктатуры пролетарыяту. Крытыка опортуністычнага разуменьня галоўнага ў ленінізьме ў Зіноўева і Каменева.

5. У барацьбе з якімі ворагамі вырас і ўмацаваўся ленінізм (адкрыты опортунізм II Інтэрнацыяналу, „дробнабуржуазная рэволюцыйнасьць“, цэнтрызм — Каўцкі, Троцкі). „Левыя“ ў II Інтэрнацыянале.

6. Барацьба ленінізму з опортунізмам правадыроў II Інтэрнацыяналу, з паўменшавіцкімі памылкамі Розы Люксэмбург і з сучасным соцыял-фашызмам па пытаньнях аб месцы, ролі і значэньні тэорыі.

7. Соцыяльныя карэньні рэвізіянізму. Рэвізіянізм як буржуазная агентура ў рабочым руху. Сучасны соцыял-фашызм і яго адкрытая барацьба з марксызмам-ленінізмам.

8. Скажэньне правымі і „левымі“ опортуністамі марксызму-ленінізму. Барацьба контррэволюцыйнага трацкізму з марксызмам-ленінізмам. Барацьба Леніна і партыі на два фронты за чыстату рэволюцыйнай тэорыі, супроць правых і „левых“ опортуністаў унутры партыі.

9. Міжнародны характар і міжнароднае значэньне ленінізму як рэволюцыйнай тэорыі пролетарыяту.

### III. Разьвіцьцё і абагачэньне марксысцка-ленінскай тэорыі ў рашэньнях УсеКП(б), Комінтэрну і ў працах т. Сталіна.

1. Далейшае разьвіцьцё марксызму-ленінізму ў рашэньнях партыі, Комінтэрну і ў працах т. Сталіна. Тав. Сталін як лепшы і пасьлядоўны вучань Леніна, правадыр і тэорэтык УсеКП(б), Комінтэрну і міжнароднага пролетарыяту.

2. Барацьба партыі пад кіраўніцтвам т. Сталіна супроць контррэволюцыйнага соцыял-фашызму і трацкізму за чыстату марксысцка-ленінскай тэорыі. Барацьба партыі супроць буржуазных скажэньняў марксысцка-ленінскай тэорыі правымі ўхілістамі (тэорыя „роўнавагі“, „стыхійнасьці“, „самацёку“ і „плаўнага“ разьвіцьця).

3. Сусьветна гістарычнае значэньне лісту т. Сталіна ў рэдакцыю часопісу „Пролетарская революция“.

### IV. Значэньне рэволюцыйнай тэорыі на сучасным этапе барацьбы за пабудову бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва ў СССР і для барацьбы сусьветнага пролетарыяту за дыктатуру пролетарыяту, за комунізм

1. Посьпехі пролетарыяту і яго авангарду—УсеКП(б) на фронце барацьбы за соцыялізм у СССР і значэньне рэволюцыйнай тэорыі у справе пасьпяховага завяршэньня пяцігодкі ў чатыры гады і для пабудовы ў другой пяцігодцы бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва.

2. Паглыбленьне і абвастрэньне сусьветнага экономічнага крызісу на базе агульнага крызісу капіталізму, канец стабілізацыі капіталізму, падыход раду краін усутыч да рэволюцыйнага крызісу, далейшае абвастрэньне барацьбы двух сыстэм і значэньне рэволюцыйнай тэорыі для сусьветнага пролетарыяту ў барацьбе за рэволюцыйны выхад з крызісу, у барацьбе за дыктатуру пролетарыяту, за комунізм.

3. Задача далейшай распрацоўкі марксысцка-ленінскай тэорыі на аснове: а) работ Маркса, Эн-

гельса, Леніна і Сталіна; б) сучаснай гісторыі капіталізму, пролетарскай рэволюцыі, пераходнага пэрыоду і асабліва пэрыоду ўступленьня ў соцыялізм.

4. Няпрымірымая барацьба УсеКП(б) і Комінтэрну на два фронты—з правым ухілам як галоўнай небясьпекай на даным этапе, з „левым" опортунізмам, з ухілам у нацпытаньні, прымірэнцтвам і гнілым лібэралізмам, як важнейшая абавязковая ўмова перамог на фронце соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР, на фронце барацьбы пролетарыяту ўсяго сьвету за сусьветную дыктатуру пролетарыяту, за сусьветны комунізм.

5. Конкрэтызацыя і далейшае разьвіцьцё марксысцка-ленінскай тэорыі ў рашэньнях партыі, Комінтэрну і ў працах Сталіна. Кіраўнічая роля т. Сталіна ў барацьбе УсеКП(б) і Комінтэрну за чыстату тэорыі марксызму-ленінізму.

6. Задачы марксысцка-ленінскай тэорыі на сучасным этапе соцыялістычнага будаўніцтва і сусьветнай рэволюцыі.

Абавязковай умовай перамог пролетарыяту СССР і ўсяго сьвету зьяўляецца далейшая няпрымірымая барацьба компартыі на два фронты — з правым ухілам як галоўнай небясьпекай на сучасным этапе, з „левым" опортунізмам, прымірэнцтвам да іх, гнілым лібэралізмам і з контррэволюцыйнымі тэорыямі соцыялфашызму і трацкізму.

7. Апошнія рашэньні ЦК УсеКП(б) і КП(б)Б аб перабудове партыйна-масавай работы і значэньне марксысцка-ленінскага выхаваньня на даным этапе.

## ЛІТАРАТУРА


Да першага разьдзелу:

1. Ленін,—„Што рабіць", т. IV, стар. 368—382, выд. 3-е.
2. Ленін,—„Что такое „друзья народа" т. I, стар. 200 і 225, выд. 2 і 3-е.
3. Ленін, —„Материализм и эмпириокритицызм", том XIII, стар. 277, выд. 3-е.
4. Ленін,—„Дзяржава і рэволюцыя", т. XXI, стар. 392, выд. 3-е.
5. Ленін,—„К. Маркс", т. XVIII, стар. 1—43, выд. 3.
6. Ленін, „Три источника и три составных части марксизма", т. XVI, выд. 3.
7. Ленін—„Честный голос французского социалиста", т. XVIII, стар. 286, выд. 3-е.
8. Ленін—„Еще одно уничтожение социализма", т. XVI, стар. 275, выд. 3-е.
9. Ленін—„Заваяваньне і запісаньне", т. XXIV, стар, 25.
10. Ленін—„Наша программа", „Ленинский Сборник" III, стар. 14.
11. Маркс,—„Пісьмо Ведамейеру ад 5 сакавіка 1852 г.", ад слоў „тое, што я зрабіў новага."
12. „Пісьмы, пад рэд. Адарацкага, Масква, 1928 г. №23. Введение к первому и второму изданию „Капитала".
13. Энгельс,—„Анты-Дзюринг", Уводзіны, разьдз. I, стар. 17, 25—27.
14. Маркс,—„Тэзісы аб Фэйербаху", „Архив" кн. I, стар. 200—202.
15. Сталін.—„Об основах ленинизма", „Вопросы ленинизма", асабліва гл. разьдз. II, III, VII, IX
16. Сталін, —Прамова на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстаў
17. Сталін,—„Об оппозиции", асабл. стар 361, 375, 500.
18. Кагановіч.—„За большевистское изучение истории партии", стар. 4—5, 10—11.

Да другога разьдзелу:

1. Ленін,—„Исторические судьбы учения К. Маркса", т. XVI, выд. 3-е.
2. Сталін,—Вопросы ленинизма", „Об основах ленинизма", разьдз. I, II, VII, выд 1931 г.
3. Сталін,—„К вопросам аграрной политики" (прамова на зьезьдзе аграрнікаў марксыстаў).
4. Сталін,—„К вопросам ленинизма", разьдз. I і II. „Вопросы ленинизма".

5. Сталін, — „Аб социял-дэмократычным ухіле ў нашай партыі (заключнае слова), зб. „Об опозиции".
6. Сталін, —„Трацкізм ці ленінізм".
7. Сталін, —„Гутарка з першай рабочай амэрыканскай дэлегацыяй" (адказ на 1-е пытаньне).
8. Ленін—„Розногласия в европейском рабочем движении", т. XV, стар. 5—9.
9. Ленін,—„Детская болезнь" „левизны" в коммунизме", разьдз. II і IV, т. XXV, стар. 175, 179, 186, выд. 3-е.
10. 3-і пункт рэзолюцыі XI пленуму ВККІ „Аб социял-фашызьме як галоўнай соцыяльнай апоры буржуазіі".
11. Сталін,—„Прамова на жалобным паседжаньні, прысьвечаным VIII гадавіне сьмерці Леніна, „Аб ленінізьме", гл. I, Партвыдавецтва, 1932 г.
12. Сталін —Ліст у рэдакцыю журнала „Пролетарская революция".

Да 3-га і 4-га разьдзелаў.

1. Зборнік артыкулаў да 50-годзьдзя са дня нараджэньня т. Сталіна. „Сталін", выд. 1928 г., асабліва артыкулы Кагановіча, Мануільскага і Куусінена.
2. Сталін, — Да пытаньняў аграрнай політыкі ў СССР, зб. „Вопросы ленинизма"
3. Сталін,—Да пытаньня аб політыцы ліквідацыі кулацтва як клясы, зб. „Вопросы ленінізма".
4. Сталін,—Даклад XVI партзьезду—Там-жа.
5. Сталін,—Аб правым ухіле ва УсеКП(б), зб. „Вопросы ленинизма".
6. Сталін,—Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшавізму. Ліст у рэдакцыю часопісу „Пролетарская революция".
7. Рэзолюцыі XVII партконфэрэнцыі.
8. Пастановы ліпеньскага пленуму ЦК УсеКП(б) аб перабудове організацыйнай партыйна-масавай і выхаваўчай работы партыі.
9. Постышаў,—„За марксысцка-ленінскае выхаваньне".
10. Бубноў, — Прамова на жалобным паседжаньні, прысьвечаным VIII гадавіне сьмерці Леніна (разьдз. I, „Аб сусьветным значэньні ленінізму").
11. Часопіс „Большевик" № 19—20, 1931 г. перадавая.
„ „ № 22 1931 г. перадавая.
„ „ № 1—2 1931 г. перадавая.
12. „Правда" ад 25 жніўня 1932 г., перадавая.
13. Рэзолюцыя бюро ячэйкі ІЧП філёзофіі і прыродазнаўства ад 29-XII-30 г.
14. Мілюцін і Барылін,—Да разнагалосьсяў у політ.-экон., „Большевик" № 2, 1931 г. Асабліва важна заўвага рэдакцыі да гэтага артыкулу.
15. Програма КІ, разьдз. VI, § I.

## ПРОГРАМА ПА МАТЭМАТЫЦЫ.

### Тлумачальная запіска.

Програма па матэматыцы ў асноўным складзена для слаба падрыхтаваных груп, у групах з павышанай падрыхтоўкай па матэматыцы трэба вызначаны ў програме матэматычны матэрыял паглыбіць і дадаткова распрацаваць наступныя тэмы: 1) простыя дробі, 2) пропорцыі, 3) вымярэньне паверхняй і аб'ёмаў цел; гэтыя тэмы не ўвайшлі ў програму з прычыны абмежаванасьці часу, які адводзіцца для выкананьня програмы.

У адпаведнасьці з пастановай ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе, асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на якасьць вучобы, на цьвёрдае ўсваеньне прапрацоўваемага матэрыялу і ўменьне прымяніць яго да жыцьця.

Організацыя вучэбнай працы па матэматыцы можа быць праведзена ў такім парадку.

Пасьля азнаямленьня з групай, кожны настаўнік складае на падставе гэтай програмы плян працы, дапасаваны да ўзроўню падрыхтоўкі групы, і прымае ўсе захады да таго, каб слухачы цьвёрда замацавалі вызначаны мінімум па матэматыцы.

Мэтод працы ў асноўным павінен быць такім:

1) У пачатку лекцыі на працягу некалькіх мінут паўтараецца матэрыял, прапрацаваны на мінулай лекцыі.

2) Бярэцца задача, галоўным чынам зьвязаная з вытворчасьцю, для разьвязаньня якой патрэбны тыя веды па матэматыцы, якія і павінны быць распрацаваны на гэтай лекцыі.

Такі падыход выразна паказвае мэтазгоднасьць вывучэньня матэматычных пытаньняў і правіл.

3) Настаўнік растлумачвае правіла шляхам пастаноўкі раду пытаньняў, якія накіроўваюць слухачоў на тое, каб яны самі зрабілі вывад—правіла.

4) Колектыўна разьвязваецца некалькі прыкладаў і задач.

5. Даецца для самастойнай прапрацоўкі некалькі прыкладаў і задач.

Улічваючы працу з дарослай рабочай аўдыторыяй, якая мае практычныя звычкі ў розных гаспадарчых разьліках, вылічэньні проценту выкананьня промфінпляну і інш., трэба шырока скарыстаць гэты запас матэматычных ведаў у слухачоў, і ў

далейшай працы падвесьці тэорэтычную базу пад гэты запас практычных ведаў. З гэтай прычыны карысна з пісьмовымі вылічэньнямі рабіць вусныя, напрыклад, пры вывучэньні процантаў і другіх аддзелаў.

Выразнае разуменьне слухачамі мэтазгоднасьці прапрацоўваемага курсу матэматыкі, практычнай яго неабходнасьці выклікае зацікаўленасьць у слухачоў і гэтым значна палягчае працу настаўніка, заахвочваючы слухачоў да далейшай вучобы. У гэтых адносінах вялікае значэньне мае матэрыял, на якім будзе прапрацоўвацца матэматыка. У асноўным матэрыял павінен быць канкрэтным, жыцьцёвым, блізкім да слухачоў. Матэрыял павінен быць увязан з данай вытворчасьцю (прамфінплян і яго выкананьне, праца паасобных брыгад, падлікі, зьвязаныя з гаспадарчымі разьлікамі і інш.). Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на падбор матэрыялу, які я зьвязаны з ажыцьцяўленьнем шасьці ўмоў т. Сталіна: арганізаваны набор рабочай сілы, барацьба з цякучасьцю, з ураўнілаўкай у заработнай плаце, з абязьлічкай, правядзеньне гаспадарчага разьліку, зьніжэньне сабекошту, мобілізацыя ўнутраных рэсурсаў і інш.

Неабходна падабраць матэрыял аб выкананьні першай пяцігодкі у чатыры гады і контрольных лічбах народнай гаспадаркі ў другой пяцігодцы (матэрыялы XVII партконфэрэнцыі і студзеньскага пленуму ЦК УсеКП(б).

# ПРОГРАМА ПА МАТЭМАТЫЦЫ

*(Разьлічана на 54 гадзіны).*

| Зьмест матэматычных ведаў | Мэтодычныя заўвагі і матэрыялы для прапрацоўкі |
|---|---|
| **ТЭМА 1.** (4 гадз.).<br>Нумэрацыя цэлых лікаў.<br>Лік, як рэзультат лічэньня і вымярэньня. Цыфры. Значэньне нуля. Запіс і чытаньне лікаў. Акругленьне цэлых лікаў. | Чытаньне і запіс лікаў прапрацаваць у такім парадку: чытаньне і запіс лікаў да 1000; пасьля цьвёрдага ўсваеньня гэтага матэрыялу перайсьці да чытаньня і запісу лікаў большых 1000. Зьвярнуць увагу на акругленьне лікаў. Для прапрацоўкі скарыстаць лічэбны матэрыял з газэт аб соцыялістычным будаўніцтве. |
| **ТЭМА 2.** (4 гадз.).<br>Мэтрычныя меры.<br>Вымярэньне простых ліній. Мэтрычныя меры даўжыні: мэтр, кілёмэтр, дэцымэтр, сантымэтр.<br>Меры вагі: кілёграм, грам, цэнтнер, тона.<br>Павялічэньне лікаў у 10, 100 і 1000 разоў.<br>Мераньне ліній на мясцовасьці шнурам і рулеткай. | Мэтр, дэцымэтр і сантымэтр паказаць у натуральную велічыню; нарысаваць у сшытку адрэзкі, роўныя дэцымэтру і сантымэтру. Навучыць слухачоў скарочана запісваць назвы мер *м*, *км*, *кг*, *т*.<br>Зрабіць вымярэньне даўжыні клясвага пакою і іншых рэчаў. |
| **ТЭМА 3.** (4 гадз.).<br>Складаньне і адніманьне цэлых лікаў.<br>Найбольш простыя прыёмы вуснага складаньня лікаў. Складаньне цэлых лікаў у пісьмовай форме. Адніманьне цэлых лікаў.<br>Праверка складаньня і адніманьня. | Тэму прапрацаваць у такім парадку: спачатку прыёмы вуснага складаньня адназначных і двухзначных лікаў. (8 + 2 + 5; 16 + 4 + 9; 15 + 13 + 7 і г. д.), і далей пісьмовае складаньне двухзначных і трохзначных лікаў, сума адзначаных разрадаў якіх менш дзесяці; потым складаньне любых лікаў.<br>Адніманьне прапрацоўваецца ў такім самым парадку; трэба зьвярнуць увагу і больш спыніцца на выпадках адніманьня, калі ў зьменшыве нулі. Лічэбны матэрыял для прапрацоўкі узяць з газэт і даных прамысловасьці. |

| Зьмест матэматычных ведаў | Мэтодычныя заўвагі і матэрыялы для прапрацоўкі |
|---|---|
| **ТЭМА 4. (6 гадз.)** | |
| Множаньне цэлых лікаў. Множаньне адназначных лікаў. Табліца множаньня Піфагора. Множаньне многазначных лікаў на адназначныя. Множаньне любых лікаў. Перастаноўка сумножнікаў. Паняцьцё аб прамавугольніку і квадраце. Квадратныя мэтрычныя меры.: *м*², га, *дм*², *см*². Вымярэньне плошчаў прамавугольніка і квадрата. Аб'ём прамавугольніка бруса і куба. Кубічныя мэтрычныя меры: *м*³, *дм*³, *см*³. | Спачатку трэба спыніцца на множаньні адназначных лікаў вусна і пры дапамозе табліцы; потым множаньні двухзначных лікаў і трохзначных лікаў на адназначныя; далей, множаньне любых лікаў. Асобна разглядзець выпадкі множаньня лікаў з нулямі на канцы і ў сярэдзіне. Зрабіць падлік расходу грошай і розных матэрыялаў на пабудову. Вылічыць плошчу і аб'ём кляснага пакою; аб'ём бэлькі і інш. |
| **ТЭМА 5. (6 гадз.)** | |
| Дзяленьне цэлых лікаў. Дзяленьне на адназначны лік. Дзяленьне на двухзначны лік. Дзяленьне на трохзначны лік. Выпадкі дзяленьня з астачай. Праверка множаньня і дзяленьня. | Пры дзяленьні двухзначнага ліку на адназначны, трэба навучыць слухачоў знаходзіць дзель на табліцы множаньня. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на дзяленьне лікаў, якія канчаюцца нулямі і на выпадкі, калі ў дзелі атрымліваюцца нулі. Разьлікі норм выпрацоўкі на новабудоўлях; падлік працы і заработнай платы. |
| **ТЭМА 6. (4 гадз.)** | |
| Дзесятковыя дробі. Напісаньне дзесятковых дробаў. Павялічэньне і памяншэньне дзесятковых дробаў у 10, 100 і 1000 разоў, пераносам коскі. | Напісаньне дзесятковых дробаў трэба зьвязваць з напісаньнем такіх лікаў: 5 р. 35 к. = 5,35 р.; 3 *м* 2 *дм* = 3,2 *м*; 2 *кг* 52 *г* = 2,052 *кг*. Павялічэньне і памяншэньне дзесятковых дробаў у 10, 100 і 1000 разоў трэба зьвязаць з мэтрычнымі мерамі даўжыні і вагі. |
| **ТЭМА 7. (4 гадз.)** | |
| Складаньне і адніманьне дзесятковых дробаў. Праверка складаньня і адніманьня. | Паколькі складаньне і адніманьне дзесятковых дробаў робіцца таксама, як і складаньне і адніманьне цэлых лікаў, то ўвесь час трэба зьвяртаць увагу на правільную пастаноўку коскі. |

| Зьмест матэматычных ведаў | Мэтодычныя заўвагі і матэрыялы для прапрацоўкі |
| --- | --- |
| ТЭМА 8. (4 гадз.) | |
| Множаньне дзесятковых дробаў. Множаньне дзесятковага дробу на цэлы лік. Множаньне дзесятковага дробу на дроб. Акругленьне лікаў пры множаньні да адной капейкі, аднаго *кг*, аднаго *см* і інш. | Пры распрацоўцы гэтай тэмы, спачатку трэба на цэлых ліках паказаць, як зьмяняецца здабытак, калі мы множнікі павялічым ці паменшым у некалькі разоў, таксама трэба паўтарыць павялічэньне і памяншэньне дзесятковых дробаў у 10, 100 і 1000 разоў. Абавязкова патрэбна на конкрэтных прыкладах і задачах паказаць, што пры множаньні на лік меншы адзінкі даны лік памяншаецца. Нормы выпрацоўкі на прадпрыемствах і ў колгасах. |
| ТЭМА 9. (8 гадз.) | |
| Дзяленьне дзесятковых дробаў. Дзяленьне дзесятковага дробу на цэлы лік. Дзяленьне цэлага ліку на дзесятковы дроб. Дзяленьне дзесятковага дробу на дзесятковы. Вылічэньне аднэй дзесятай і аднэй сотай часткі ліку. Прыбліжаны дзель. Правіла акругленьня лікаў. Сярэдні арытмэтычны лік. Праверка множаньня і дзяленьня. | Спачатку трэба паказаць на цэлых ліках, што дзель не зьмяняецца, калі дзеліва і дзельнік павялічым ці паменшым у аднолькавы лік разоў. Пераходзіць да дзяленьня на дзесятковы дроб трэба толькі тады, калі стала замацавана дзяленьне дзесятковага дробу на цэлы лік. У гэтай тэме трэба шырока скарыстаць лічбовы матэрыял з розных галін социялістычнага будаўніцтва. |
| ТЭМА 10. (8 гадз.) | |
| Процанты. Процант як сотая частка ліку. Вылічэньне некалькіх процантаў ад данага ліку. Процантнае параўнаньне лікаў. Пабудова простакутных дыяграм. | Пры процантных вылічэньнях спачатку трэба навучыць слухачоў знаходзіць адзін процант данага ліку, потым цэлы лік процантаў: 4%, 6%, 15% і т. д. Процантнае параўнаньне лікаў трэба зьвязаць з вылічэньнем процанту выкананьня прамфінпляну. Карысна выпрацаваць і запісаць практычнае правіла для першага і другога выпадку процантных вылічэньняў. На працягу ўсёй гэтай тэмы неабходна зьвяртаць увагу на вуснае вылічэньне процантаў. Матэрыялам прапрацоўкі можа быць лічбовы матэрыял з газэт аб выкананьні промфінпляну на прадпрыемствах; контрольныя лічбы другой пяцігодкі; павялічэньне пасеўных плошчаў у саўгасах і колгасах і інш. |

# ПРОГРАМА ПА МАТЭМАТЫЦЫ (павышаны варыянт)

*(разьлічана на 62 гадзіны).*

Програма разьлічана для груп, якія маюць некаторую падрыхтоўку па матэматыцы. З гэтай прычыны колькасьць матэрыялу павялічана; організацыя-ж працы па матэматыцы і матэрыял для прапрацоўкі можа быць такі самы, які вызначан у растлумачальнай запісцы для програмы па матэматыцы для слаба падрыхтаваных груп.

| Матэматычны матэрыял | Мэтодычныя заўвагі і матэрыял для прапрацоўкі |
|---|---|
| Уступная гутарка (2) | 1) Гістарычнае разьвіцьцё матэматыкі; 2) матэматыка ў капіталістычных краінах і СССР. |
| ТЭМА 1. (4) | |
| Паўтарэньне 4-х арытмэтычных дзеяньняў над цэлымі лікамі. | У гэтай тэме асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на дзяленьне многазначных лікаў. Лічбовы матэрыял узяць з пляну соцбудаўніцтва другой пяцігодкі. |
| (2) Праца над матэматычнай кнігай. | Увага: азнаямленьне з мэтодыкай працы над кнігай праводзіцца пасьля прапрацоўкі адной тэмы. |
| ТЭМА 2. (4) | |
| *Паняцьце аб дзесятковых дробах.* Мэтодычная сыстэма меры і мер вагі. Складаньне і адніманьне дзесятковых дробаў. | Зьвярнуць увагу на прынцып напісаньня дзесятковых дробаў і зьвязаць з мэтрычнай сыстэмай мер. Спыніцца на павялічэньні і памяншэньні дзесятковага дробу ў 10, 100 і 1000 разоў шляхам пераносу коскі. |
| ТЭМА 3. (6) | |
| Множаньне дзесятковых дробаў. Дзяленьне дзесятковых дробаў. Прыбліжаны дзель. Акругленьне лікаў. Сярэдні арытмэтычны лік. | Асабліва спыніцца на выпадках, калі прыходзіцца множыць ці дзяліць на лік меншы адзінкі. Матэрыял для прапрацоўкі.<br>1) зьдзельныя нормы выпрацоўкі ў колгасах;<br>2) расход рознага роду матэрыялаў;<br>3) вылічэньне сярэдняга заработку. |

| Матэматычны матэрыял | Мэтодычныя заўвагі і матэрыял для прапрацоўкі. |
|---|---|
| **ТЭМА 4. (10)**<br>Процанты;<br>а) процантныя адлічэньні;<br>б) процантнае параўнаньне лікаў;<br>в) знаходжаньне ліку па данаму проценту. | Пры вывучэньні процантаў даць курсантам выразныя практычныя правілы для процантных вылічэньняў.<br>Таксама зьвярнуць увагу на вусныя прыёмы вылічэньня процантаў.<br>Матэрыял для прапрацоўкі: процант выкананьня прамфінпляну па асноўных відах будаўніцтва БССР і СССР: а) арганізацыйнае ўмацаваньне колгасаў; б) павялічэньне пасеўных плошчаў пад зернавымі культурамі; в) павялічэньне фабрычна-заводзкай продукцыі; г) павялічэньне выпуска прадметаў шырпатрэбу і інш.<br>Скарыстаньне курсантамі газэтнага лічбовага матэрыялу. |
| **ТЭМА 5. (4)**<br>Лініі. Паняцьце аб вуглах. Мераньне вуглоў. Паняцьце аб паралельных і пэрпэндыкулярных лініях.<br>Трохвугольнікі і іх віды. Вышыня трохвугольніка. | Рысаваньне вуглоў і вымярэньне іх транспортырам.<br>Вымярэньне вуглоў у дрэваапрацоўчай і мэталяапрацоўчай прамысловасьці. |
| **ТЭМА 6. (10)**<br>Чатырохвугольнікі і прамавугольнікі, квадрат, паралелёграм, ромб і трапецыя.<br>Квадратныя мэтрычныя меры.<br>Вылічэньне плошчаў чатырохвугольнікаў; плошча трохвугольніка.<br>Вылічэньне плошчаў няправільных фігур.<br>Прамавугольныя дыяграмы. | Галоўную ўвагу ў гэтай тэме трэба зьвярнуць на вылічэньне плошчаў, каб курсант мог вылічыць колькасьць матэрыялу на пабудову, на рамонт, афарбоўку і інш.<br>Выводзіць формулы плошчаў геом. фігур не патрэбна.<br>Прамавугольныя дыяграмы зьвязаць з выкананьнем прамфінпляну на мясцовых прадпрыемствах, дзе працуюць курсанты групы. |
| **ТЭМА 7. (8)**<br>Адносіны, пропорцыі. Разьвязваньне пропорцыі.<br>Паняцьце аб падобных геомэтрычных фігурах.<br>Лінейны маштаб; плян. | Скарыстаць формулы з палітэкономіі $C : V; \frac{m}{V}\ \frac{m}{c+V}.$<br>Вылічэньне плошчы па пляну. |

| Матэматычны матэрыял | Мэтодычныя заўвагі і матэрыял для прапрацоўкі |
|---|---|
| ТЭМА 8. (4) | |
| Вылічэньне даўжыні акружыны. Вылічэньне плошчы кругу. | Матэрыял для прапрацоўкі трэба ўзяць наступны: шківы, раменная перадача, зубчатая перадача. Вылічэньне хуткасьці абароту. Кругавыя дыяграмы. |
| ТЭМА 9. (8) | |
| Аб'ёмы і паверхні цел. Кубічныя мэтрычныя меры. Паверхня і аб'ём прызмы і цыліндра. | Вылічэньне паверхняў і аб'ёмаў цел даць у практычным разрэзе, бяз вываду агульных літарных формул. Паказаць на розных прыкладах прымяненьне матэматычнай тэорыі для разьвязаньня практычных пытаньняў. |
| Паверхня і аб'ём пірамід і конуса. Залежнасьць паміж адноснай вагой і аб'ёмам і вагой цела. | Вылічэньне кубатуры памяшканьняў сілосных вежаў, акопаў. Вылічэньне вагі цел па аб'ёму. |

## ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

### да праграмы па беларускай мове для нізавой сеткі школ партасьветы на прадпрыемствах.

Вывучэньне белмовы ў школах нізавой сеткі партасьветы мае на ўвазе: а) даць слухачам усьведамленьне, што мова ёсьць ня толькі сродак зносін паміж людзьмі, але і вострая зброя ў клясавай барацьбе; б) даць навыкі ў карыстаньні вуснай і пісьмовай мовай і тым самым дапамагчы слухачам у прапрацоўцы матэрыялаў з іншых галін ведаў; в) павялічыць пісьменнасьць слухачоў.

У праграме зьмешчана 8 тэм, разьлічаных у сярэднім на 50 гадзін.

Асабліва важнае значэньне набывае першая тэма. Тут неабходна даць слухачам ясны малюнак таго значэньня, якое мае мова ў эпоху дыктатуры пралетарыяту, пэрыод разгорнутага сацыялістычнага наступленьня па ўсім фронце і абвостранай клясавай барацьбы. На конкрэтных прыкладах контррэволюцыйнай „работы" нацдэмаў вялікадзяржаўных шовіністаў і іншых варожых пролетарыяту элемэнтаў трэба паказаць слухачам, што ва кол мовы вялася і вядзецца клясавая барацьба, патрэбна паказаць буйны рост беларускай культуры, нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зьмесьце, а разам з тым паказаць і роскві̇т беларускай мовы на аснове разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва і барацьбы з вялікадзяржаўным расійскім шовінізмам, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, беларускім контррэволюцыйным нацдэмократызмам і шовінізмамі розных колераў. Неабходна даць слухачам яснае ўяўленьне аб моўнай політыцы рабочай клясы, а таксама аб тым, што ўвесь час адбываецца фармаваньне слоўніка беларускай мовы пры самым чынным удзеле пролетарыяту БССР і СССР. Тут-жа трэба будзе паказаць, як разьвязваецца пытаньне нацыянальнай культуры ў фашысцкай Польшчы, на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны.

На клясавасьць у мове трэба зьвяртаць увагу на працягу ўсяго часу заняткаў.

Слухачы павінны пераканацца ў неабходнасьці выбіраць, пашыраць словы з пралетарска-клясавай завостранасьцю і весьці барацьбу супроць слоў антыпролетарскіх, супроць слоў „блатных", засьмечваючых мову. Кожны слухач у выніку прапрацоўкі курсу белмовы павінен стаць актыўным

барацьбітом за пролетарскую чыстату, клясавую завостранасьць і чоткасьць як сваёй уласнай мовы, так і мовы сваіх таварышоў. Пажадана, каб кожны слухач меў (вёў) сшытак для запісу новых пролетарскіх словаўтварэньняў.

Пры навучаньні чытаньню выкладчык павінен сам даць узор правільнага, выразнага чытаньня. У мэтах набыцьця добрых вынікаў у тэхніцы чытаньня неабходна вывучаць індывідуальныя схільнасьці кожнага слухача ці групы слухачоў і даваць або рэкомэндаваць ім для паказу школьнага чытаньня адпаведныя, цікавячыя іх кнігі, часопісы, газэты. Пры гэтым зразумела, трэба кожны раз праводзіць з слухачамі гутарку адносна зьместу прачытаных імі кніг.

У часе набыцьця слухачамі навыкаў у чытаньні, неабходна дапамагаць ім будаваць граматычна правільныя, поўныя сказы— спачатку праз пастаноўку пытатаньняў, а потым і самастойна. Расказваньне прачытанага, бачанага і г. д. павінна праводзіцца на працягу ўсяго часу навучаньня.

Каб закласьці цьвёрдую аснову беспамылковага, чыстага пісаньня, трэба, каб на першым пачатку сам настаўнік даваў сваім слухачам узоры паліграфічнага і правільнага пісаньня.

Пры праглядзе пісьмовых работ слухачоў трэба вывучаць характар памылак кожнага і не мэханічна іх выпраўляць, а дабівацца, чаму зроблена тая ці іншая памылка і растлумачваць слухачу сутнасьць гэтай памылкі. У замацаваньні правапісных навыкаў дапаможа выпісваньне цытат, пісаньне корэспондэнцый у газэту, пісаньне даведак і т. д.

Аналіз тэксту павінен дапамагчы слухачу сьвядома, крытычна ўспрыняць друкаванае слова і стылістычна апрацаваць яго вусную і пісьмовую мову. Трэба скарыстоўваць кожны выпадак і ўсямерна дапамагаць слухачам авалодваць багатай, клясава завостранай стылістычнай мовай Леніна і Сталіна. Трэба паказваць слухачам на клясава вытрыманую і партыйна-завостраную мову рэзолюцый і іншых дакумантаў нашай партыі. Разам з гэтым неабходна паказаць слухачам выпадкі неахайнага, нядбайнага скарыстаньня друкаванага слова.

Аналіз цэлага моўнага абзацу павінен дапамагчы слухачам аўладаць тэхнікай пабудовы газэтнага ці іншага артыкулу. На конкрэтным матэрыяле неабходна паказаць, што зьяўляецца тэмай артыкулу, як гэтая тэма разьвіваецца, даказваецца, як фармулюецца вывад. Зразумела, што лепш за ўсё гэту работу правесьці на артыкулах Леніна, Сталіна, на пастановах партыі і ўраду.

Толькі пасьля ўсёй папярэдняй работы можна пераходзіць да аналізу соцумовы, да самастойнага складаньня пляну.

# ПРОГРАМА ПА БЕЛМОВЕ

*(Для нізавой сеткі школ партасьветы на прадпрыемствах).*

**1. Агульныя зьвесткі аб мове.**

Мова як сродак зносін і як зброя ў клясавай барацьбе. Вялікадзяржаўны расійскі шовінізм і беларускі контррэволюцыйны нацдэмократызм у беларускай мове. Зьмены ў белмове пасьля Кастрычніцкай рэволюцыі. Літаратурная мова, як мова пануючай клясы. Моўная політыка рабочай клясы. Клясавы характар слоўніка белмовы. Словы інтэрнацыянальныя. Неабходнасьць усваеньня дакладнага значэньня слоў беларускіх і іншамоўных. Прыклады Леніна.

**2. Асаблівасьці беларускай літаратурнай мовы.**

Гукавы склад слова. Падзел слоў на склады, а складоў на гукі. Гукі і літара. Беларуская азбука. Гукі галосныя і зычныя. Падзел зычных гукаў на цьвёрдыя і мяккія. Дзеканьне і цеканьне. Правапіс зычных, мяккіх, цьвёрдых і зацьвярдзелых. Зычныя глухія і звонкія і іх правапіс. Пераход „в" і „л" у „ў". Правапіс некаторых злучэньняў зычных. Галосныя гукі. Аканьне ў беларускай мове. Правапіс „о", „э", „е", „ё" пад націскам і бяз націску. Практыкаваньне ў набыцьці правапісных навыкаў.

**3. Конкрэтнае азнаямленьне з кнігай і газэтай.**

Аўтар кнігі, яе назва, зьмест, разьдзелы, год выданьня. Газэта і яе разьдзелы.

Запатрабаваньні, якія вымагаюцца ад чытаньня: правільнасьць, сьвядомасьць, выразнасьць, тэмпы чытаньня.

Разуменьне аб сказе. Асноўныя моманты, з якіх складаецца разуменьне аб сказе: граматычна організаванае паведамленьне якой небудзь мысьлі, адлюстраваньне ў гэтым паведамленьні рэальнай, пазнаваемай намі рэчаіснасьці, узьдзейнічаньне на акаляючую рэчаіснасьць.

Сказы апавядальныя, клічныя і пытальныя. Знакі прыпынку: кропка, клічнік, пытальнік. Вялікая літара ў пачатку сказу, у імёнах і прозьвішчах людзей, у назвах краін, дзяржаў, гор, рэк гарадоў, прадпрыемстваў і ўстаноў.

**4. Аналіз моўнага цэлага (невялікага апавяданьня, газэтнага артыкулу).**

Раскрыцьцё на конкрэтным матэрыяле схэмы аналізу: тэма артыкулу, асноўныя мысьлі, доказы, вывад. Падзел артыкулу

на часткі паводле асноўных мысьляў.

Абзац і яго аналіз. Выдзяленьне асноўнай мысьлі абзацу і мысьляў даказваючых (доказаў).

Складаньне простага пляну ў форме пытаньняў. Уменьне даць поўны вусны і пісьмовы адказ на пытаньне пляну, як сваімі словамі, так і шляхам скарыстаньня прачытанага і прааналізаванага тэксту.

Аналіз сказу. Выдзяленьне ў сказе організуючай пары слоў—дзейніка і выказьніка. Выяўленьне лёгічнай сувязі слоў у сказе шляхам пастаноўкі пытаньняў. Даданыя члены сказу—дапаўненьне, азначэньне, акалічнасьць. Словы самастойныя і дапаможныя і іх роля ў сказе. Выяўленьне на конкрэтных прыкладах парадку слоў у сказе. Коска пры аднародных членах сказу. Двукроп'е пры пералічэньні.

### 5. Колектыўны разгляд соцумоў, заключаных паміж паасобнымі брыгадамі і ўдарнікамі.

Усваеньне схэмы пабудовы соцумовы: уступ (палітычная частка), конкрэтныя пункты (паказчыкі) соцумовы, спосабы праверкі. Колектыўнае ўнясеньне папраўак, зьмен і дадаткаў у даную соцумову, як па зьместу, так і стылістычнага характару. Складаньне соцумовы паміж слухачамі і выкладчыкамі.

Формуляваньне рацыяналізатарскіх рабочых прапаноў. Падзел слоў (членаў), сказу па значэньні на часьціны мовы: імя прыметнае (прыметнік), імя прымежнае (прымежнік), імя лічэбнае (лічэбнік), імя займеннае (займеньнік), дзеяслоў і словы нязьменныя. Словы зьменныя і нязьменныя.

Склад слова: аснова, канчатак, корань, суфікс, прыстаўка. Утварэньне новых слоў ад корня пры дапамозе суфіксаў, прыставак. Зьмены слоў пры дапамозе канчаткаў—родавых, склонавых, асабовых.

### 6. Пісаньне корэспондэнцыі ў газэту.

Зьмест корэспондэнцыі: яе асноўная мысьль, падмацаваньне гэтай мысьлі фактамі, вывады, прапановы.

Афармленьне насьценнай газэты. Яе разьдзелы.

Пісаньне лёзунгаў, адпавядаючых бягучаму моманту, пры дапамозе тэксту пастаноў партыі і ўраду.

Скланеньне імя прадметнага (прадметніка) у зьвязным тэксьце. Роля прадметнікаў у сказе. Скланеньне прадметнікаў па ўзору: а) Словы мужчынскага роду — комуніст, дом, колгас, каваль, алень, дзень, край; а) словы ніякага роду: сяло, калена, поле, выпаўненьне, імя; г) словы жаночага роду: жанчына, пяцігодка, ударніца, мера, дыктатуры, зямля, рэч. Правапіс прадметнікаў. Правапіс прадметнікаў і прыйменьнікаў.

### 7. Падрыхтоўка да вуснага выступленьня. Рабочы запіс.

Выдзяленьне з тэксту асноўных думак у форме закончаных сказаў і паасобных слоў, якія маюць асноўнае значэньне ў абзацы. Выпіска цытат і іх скарыстаньне ў вусных выступленьнях. Плян вуснага выступленьня.

Скланеньне імя прыметнага (прыметніка) у сьвязку з прадметнікамі. Роля прыметніка ў сказе. Правапіс прыметнікаў, займеньнікаў і лічэбнікаў. Правапіс прыметнікаў, займеньнікаў лічэбнікаў і прыйменьнікаў.

**8. Складаньне справаздачы МК, профцэхбюро, ячэйкі АСО, МОПР і т. д.**

Дзеяслоў і яго роля ў сказе. Зьмены дзеяслова ў асобе, часе, ліку. Дзеясловы загаднага і ўмоўнага характару. Дзеясловы з часткай „ся". Неазначальная форма дзеяслова. Правапіс дзеяслову. Правапіс прыйменьнікаў з дзеясловамі.

Практычнае азнаямленьне з роляй у сказе нязьменных часьцін мовы: прыслоўяў, злучнікаў, прыйменьнікаў. Іх правапіс.

---

**УСІМ РК КП(б)Б.**

Рэдкалегія журналу „За ленінскую вучобу" паведамляе і просіць неадкладна апавясьціць усім партыйным ячэйкам вашага раёну, што ў нумары 6—7 журналу „За ленінскую вучобу" на старонцы 66, дзе ў сьпіску літаратуры напісана: Троцкі „Аб Леніне і ленінізьме" зборнік пад рэдакцыяй Сафарава, трэба чытаць так: Зборнік пад рэдакцыяй Сафарава „Троцкі аб Леніне і ленінізьме"

*Рэдакцыя журналу „За ленінскую вучобу".*

---

